ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 51 (2630)
ПЯТНІЦА
22
снежня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

**У гонар пяцідзесяцігоддзя ўтварэння СССР учора ў Маскве, у Крамлёўскім палацы з'ездаў адкрылася сумеснае ўрачыстае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Вярхоўнага Савета Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Вярхоўнага Савета Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі. На пасяджэнні з дакладам «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Ільіч Брэжнеў.**



Мінск. Помнік Ул. І. Леніну.

Фота Ул. КРУКА.

**САВЕЦКІ САЮЗ УВАСАБЛЯЕ Ў САБЕ НЕБЫВАЛЫЯ РАНЕЙ У ГІСТОРЫІ АДНОСІНЫ АДЗІНСТВА І ДРУЖБЫ СВАБОДНЫХ НАРОДАЎ. ГЭТАЯ ДРУЖБА—АДНА З НАЙВЯЛІКШЫХ ЗАВАЁЎ САЦЫЯЛІЗМУ, МАГУТНАЯ РУХАЮЧАЯ СІЛА САВЕЦКАГА ГРАМАДСТВА, НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ПРАЦОЎНЫХ УСІХ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ СССР У ІМЯ САМАЙ ВЫСАКАРОДНАЙ МЭТЫ—ПАБУДОВЫ КАМУНІЗМУ.**

*(З Пастановы ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік»),*

УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ЦК КПСС, ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР І ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РСФСР

# АБ ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗІ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

## *Пераказ даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. БРЭЖНЕВА*

У гэтыя дні, сказаў таварыш Л. І. Брэжнеў, з асаблівым хваляваннем услухоўваюцца савецкія людзі ў бой курантаў Спаскай вежы Крамля. Набліжаецца час, калі галоўны гадзіннік Савецкай дзяржавы адлічыць пяцьдзесят гадоў з дня ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Мы сабраліся сёння, каб ва ўрачыстай абстаноўцы, разам з нашымі паважанымі зарубежнымі гасцямі адзначыць гэты слаўны юбілей нашай шматнацыянальнай саюзнай дзяржавы.

Утварэнне СССР было прамым працягам справы Вялікага Кастрычніка, які адкрыў новую эру ў развіцці чалавецтва, практычным увасабленнем ідэі вялікага Леніна аб добраахвотным саюзе свабодных нацый.

Паўвекавая гісторыя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік —гэта гісторыя ўзнікнення непарушнага адзінства і дружбы ўсіх народаў, якія аб'ядналіся ў рамках Савецкай сацыялістычнай дзяржавы. Гэта—гісторыя небывалага росту і ўсебаковага развіцця дзяржавы, якая народжана сацыялістычнай рэвалюцыяй і стала сёння адной з самых магутных дзяржаў свету. Гэта—гісторыя ўзмужнення і сапраўднага росквіту—эканамічнага, палітычнага і культурнага—усіх рэспублік, якія згуртаваліся пад яе сцягам, і ўсіх нацый і народнасцей, што насяляюць краіну.

Таварышы!

У гістарычныя дні юбілею СССР мы звяртаемся са словамі глыбокай павагі і ўдзячнасці да мільёнаў і мільёнаў савецкіх людзей усіх пакаленняў. Мы звяртаемся да тых, хто сваёй рэвалюцыйнай адвагай і самаадданай працай стварaў і будаваў вялікі Савецкі Саюз, да тых, хто ў час небяспекі гераічна адстойваў яго свабоду, незалежнасць і гонар у найцяжэйшай з усіх войнаў у гісторыі, да тых, хто прывёў Савецкую краіну да росквіту яе славы і магутнасці і цяпер пракладвае ўсяму чалавецтву шлях у камуністычнае заўтра.

Нашы пачуцці найглыбейшай павагі і ўдзячнасці звернуты да ўсіх, хто беззапаветна аддадзены ленінскаму саюзу свабодных народаў, чые праца і натхненне робяць нашу любімую Радзіму з кожным днём усё больш магутнай і прыгожай, — да слаўнага рабочага класа і працаўнікоў калгасных палёў, да нашай інтэлігенцыі, да доблесных воінаў Савецкай Арміі, да нашых цудоўных жанчын. Мы звяртаемся са словамі прывітання да нашай моладзі, якая дастойна прымае эстафету старэйшых пакаленняў і ад якой у многім залежыць, якім будзе Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік к пачатку трэцяга тысячагоддзя нашай эры.

Таварыш Л. І. Брэжнеў павіншаваў прысутных з вялікім святам, з залатым юбілеем саюзнай сацыялістычнай шматнацыянальнай дзяржавы.

### І. УТВАРЭННЕ СССР — ТРЫУМФ ЛЕНІНСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКІ

У гэтыя юбілейныя дні думка, натуральна, звяртаецца да тых далёкіх ад нас па часу дзён снежня 1922 года, калі Першы Усесаюзны з'езд Саветаў прыняў Дэкларацыю і дагавор аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І чым больш удумваешся ў гістарычныя факты, тым выразней становіцца мудрасць Ленінскай партыі, якая замацавала поспех Кастрычніцкай рэвалюцыі і ажыццёўленых пасля яе карэнных сацыяльных пераўтварэнняў стварэннем непарушнага саюза раўнапраўных савецкіх рэспублік.

Цеснае згуртаванне народаў, якія вызваліліся ад прыгнёту царызму, прыгнёту буржуазіі і памешчыкаў, было неабходна для барацьбы супраць ворагаў рэвалюцыі і перамогі сацыялізму ў нашай краіне. У гады грамадзянскай вайны, як і ў незабыўныя дні Вялікага Кастрычніка, інтэрнацыянальнае згуртаванне рабочага класа, усяго працоўнага народа з'явілася адной з жыватворных крыніц нашай перамогі. Ужо ў гэтыя першыя паслякастрычніцкія гады склаўся цесны палітычны, ваенны, гаспадарчы, дыпламатычны саюз усіх існаваўшых тады савецкіх рэспублік, які быў аформлены шэрагам дагавораў паміж імі.

Грамадзянская вайна закончылася. Ворагі рэвалюцыі былі разгромлены. Настаў перыяд мірнага будаўніцтва. Натуральна, што перад кожнай з савецкіх рэспублік паўстала пытанне: як быць далей, якія формы дзяржаўнасці выбраць, як будаваць свае ўзаемаадносіны з брацкімі рэспублікамі?

Вопыт трох расійскіх рэвалюцый, інтэрнацыяналісцкія лозунгі партыі бальшавікоў, дэкрэты аб міры і зямлі, уся палітыка камуністаў, само імя Леніна сталі для працоўных мас сімвалам сумеснай барацьбы за новае жыццё. Рабочы клас, працоўныя ўсіх нацыянальнасцей цягнуліся да ўмацавання адзінства, якое прынесла ўжо такі вялікі плён у папярэднія гады.

Усім савецкім рэспублікам, каб рушыць наперад па шляху будаўніцтва сацыялізму, трэба было перш за ўсё пераадолець разруху, аднавіць па-



дарваныя войнамі прадукцыйныя сілы, пераадолець адсталасць, палепшыць умовы жыцця працоўных. Гэтыя задачы можна было вырашыць хутчэй і больш паспяхова, развіваючы гаспадарку па адзінаму плану, рацыянальна выкарыстоўваючы магчымасці падзелу працы паміж асобнымі раёнамі краіны.

Захоўвалася, нарэшце, і пагроза новай імперыялістычнай інтэрвенцыі. Адстаяць Савецкую ўладу, незалежнасць Радзімы, акружанай моцнымі ў ваенных адносінах капіталістычнымі дзяржавамі, цяжка было б без самага цеснага саюза, без поўнага аб'яднання ваенных, палітычных і дыпламатычных намаганняў брацкіх рэспублік.

Такім чынам, карэнныя інтарэсы ўсіх савецкіх народаў, уся логіка барацьбы за сацыялізм у нашай краіне патрабавалі ўтварэння адзінай шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы. Але каб такая дзяржава была створана, патрэбны былі арганізуючая роля партыі, яе правільная палітыка, яе мэтанакіраваная дзейнасць.

І ў партыі камуністаў была для такой палітыкі неабходная тэарэтычная аснова: марксісцка-ленінскае вучэнне па нацыянальнаму пытанню. Гэта вучэнне з'яўлялася важнай састаўной часткай тэорыі сацыялістычнай рэвалюцыі.

У Расіі, у сілу яе спецыфічных умоў, нацыянальнае пытанне стаяла асабліва востра. Эксплуататарскія класы царскай Расіі наўмысна сеялі нацыянальную варожасць, дзейнічаючы па прынцыпу «падзяляй і ўладар», якім ва ўсе эпохі кіраваліся прыгнятальнікі. Хоць царская Расія і была адной з буйнейшых дзяржаў таго часу, яна сама падвяргалася імперыялістычнаму грабяжу. У сувязі з гэтым перад Краінай Саветаў, з аднаго боку, паўставала пытанне будаўніцтва прынцыпова новых адносін паміж нацыямі і народнасцямі ўнутры краіны—адносін давер'я, дружбы, брацкага супрацоўніцтва, а з другога боку —пытанне абароны і забеспячэння нацыянальнай незалежнасці маладой Савецкай дзяржавы ў міжнародных адносінах.

Нашай партыі трэба было зрабіць тое, што не маглі і не могуць зрабіць нават самыя развітыя капіталістычныя дзяржавы, якія выхваляюцца сваім дэмакратызмам. Гэта ж факт, што і сёння нацыянальнае пытанне застаецца вельмі вострым у ЗША, Канадзе, Бельгіі, не гаворачы аб Вялікабрытаніі, дзе англійскі імперыялізм ужо многа гадоў вядзе жорсткую вайну супраць народа Паўночнай Ірландыі, які ўзняўся на барацьбу за свае правы.

У першыя паслякастрычніцкія гады партыя на чале з У. І. Леніным правяла велізарную работу ў масах, растлумачваючы працоўным сваю палітыку ў галіне нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

У гістарычную справу будаўніцтва сацыялістычнай шматнацыянальнай дзяржавы партыя ўклала сваю рэвалюцыйную энергію, сваю вялікую працу і волю. Работа партыі ў масах, вопыт нацыянальнага будаўніцтва, ужо набыты да таго часу РСФСР, Украінай, Беларуссю, Закаўказскай Федэрацыяй, аўтаномнымі рэспублікамі, магутная хваля аб'яднальнага руху, якая ішла з усіх рэспублік,—усё гэта пракладвала шлях да стварэння адзінай сацыялістычнай дзяржавы.

Аднак трэба было знайсці такія дзяржаўныя формы саюза, такія суадносіны правоў агульнасаюзных органаў і рэспублік, якія ў найбольшай ступені забяспечвалі б поспех справе адзінства.

Восенню 1922 года ў дыскусіі, якая разгарнулася па гэтых пытаннях, выявіліся розныя тэндэнцыі. Адны лічылі магчымым абмежавацца чымсьці накшталт канфедэрацыі рэспублік, не ствараючы адзіных агульнадзяржаўных органаў, надзеленых вялікімі паўнамоцтвамі. Другія прапаноўвалі так званую «аўтанамізацыю», г. зн. уступленне ўсіх брацкіх рэспублік на правах аўтаноміі ў састаў РСФСР. Спатрэбіўся геній Леніна, каб пераадолець абедзве гэтыя памылковыя тэндэнцыі, знайсці адзіна правільны шлях.

Уладзімір Ільіч прапанаваў план стварэння адзінай саюзнай дзяржавы ў форме добраахвотнага саюза раўнапраўных рэспублік. Натуральнай асновай такой саюзнай дзяржавы з'явілася ўлада Саветаў, якая была народжана рэвалюцыяй і ўжо даказала на практыцы сваю жыццёвую сілу.

30 снежня ў Маскве пачаў сваю работу Першы Усесаюзны з'езд Саветаў, які, адказваючы на прапановы, вылучаныя з'ездамі Саветаў Украіны, Беларусі, Закаўказзя і РСФСР, прыняў гістарычнае рашэнне аб стварэнні першай у свеце шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Гэта падзея стала дастойным вынікам першых пяці гадоў існавання Савецкай улады, улады рабочых і сялян. Нягледзячы на ўсе буры, нягоды і небяспекі, улада, народжаная рэвалюцыяй, не толькі выстаяла, але і згуртавала працоўных нашай шматнацыянальнай Радзімы ў адзіны магутны Савецкі Саюз!

У той жа дзень, 30 снежня 1922 года, наша слаўная Масква была выбрана сталіцай СССР.

Словам, дзень 30 снежня 1922 года—гэта сапраўды гістарычная дата ў жыцці нашай дзяржавы, важная вяха ў лёсе ўсіх савецкіх народаў, іх вялікае свята. У нас ёсць Дзень Канстытуцыі. Можа, варта ў далейшым аб'яднаць гэтыя два святы і адзначаць 30 снежня як дзень утварэння СССР. Гэта будзе дзень дружбы і брацтва нашых народаў, свята сацыялістычнага інтэрнацыналізму!

Стварэнне Савецкага Саюза, утварэнне і ўступленне ў яго ў далейшым шэрагу новых саюзных рэспублік памножылі сілы і магчымасці народаў нашай краіны ў будаўніцтве сацыялізму. Вялікая сацыялістычная дзяржава—Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік—заняла належнае ёй месца на сусветнай арэне на вялікую карысць для справы міру, свабоды і незалежнасці ўсіх народаў зямлі.

Вось паўвека ўжо горда лунае пераможны чырвоны сцяг Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, увасабляючы веліч камуністычных ідэалаў — ідэалаў сацыяльнай справядлівасці, міру, дружбы і брацкага супрацоўніцтва народаў. Ён, гэты сцяг, натхняў нас у працы і ў баі, у дні вялікіх радасцей і ў гадзіны цяжкіх выпрабаванняў. І наш сёлетні юбілей — гэта нібы ўрачыстая клятва ўсяго савецкага народа: клятва вернасці нашаму слаўнаму сцягу, вернасці нашаму вялікаму Саюзу, клятва вернасці свяшчэнным ідэалам камунізму!

### ІІ. НЕПАРУШНАЕ АДЗІНСТВА І БРАЦКАЯ ДРУЖБА НАРОДАЎ СССР — ВЯЛІКАЯ ЗАВАЁВА САЦЫЯЛІЗМУ

Аб'яднанне ўсіх народаў краіны ў адзіны Саюз, стварэнне адзінай шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы адкрыла небывалыя магчымасці сацыяльнага, эканамічнага і культурнага прагрэсу нашай Радзімы. Сама гісторыя нібы паскорыла свой бег.

За гады пасля стварэння Савецкага Саюза агульны аб'ём прамысловай прадукцыі нашай краіны ўзрос у 320 разоў. Могуць, праўда, сказаць: параўнанне з 1922 годам не паказальнае—гэта ж быў





год пасляваеннай разрухі і голаду. Сапраўды, гэта так. Але тады давайце параўнаем 1972 год з перадваенным 1940 годам, калі наша краіна ўжо намнога перавысіла дарэвалюцыйны ўзровень. Толькі за гэты час аб'ём прамысловай прадукцыі Савецкага Саюза ўзрос у 14 разоў. Цяпер за адзін месяц савецкая прамысловасць выпускае прадукцыі больш, чым за ўвесь 1940 год.

Бурны эканамічны рост Савецкага Саюза стварыў надзейную аснову для няўхільнага ўздыму дабрабыту і культуры ўсіх народаў нашай краіны. У параўнанні з 1940 годам рэальныя даходы насельніцтва выраслі больш чым у 4 разы, больш чым у сем разоў павялічыўся розвічны тавараабарот. У 4,7 раза вырасла ў краіне колькасць урачоў, у шэсць з палавінай разоў павялічылася колькасць грамадзян, якія атрымалі вышэйшую, поўную і няпоўную сярэднюю адукацыю.

За гэтымі лічбамі стаяць вельмі глыбокія пераўтварэнні ў эканоміцы, грамадска-палітычных адносінах, ідэалогіі і культуры, што змянілі аблічча ўсяго нашага грамадства. Сярод іх важнае месца займаюць новыя, сацыялістычныя адносіны паміж усімі народамі нашай краіны, што ўсталяваліся ў жыцці.

Падводзячы вынік герaічным здзяйсненням прайшоўшага паўстагоддзя, мы маем усе падставы сказаць, што нацыянальнае пытанне ў тым выглядзе, у якім яно дасталася нам ад мінулага, вырашана поўнасцю, вырашана канчаткова і беспаваротна. Гэта — дасягненне, якое па праву можна паставіць у адзін рад з такімі перамогамі ў будаўніцтве новага грамадства ў СССР, як індустрыялізацыя, калектывізацыя, культурная рэвалюцыя.

Далей тав. Л. І. Брэжнеў гаварыў аб эканамічнай адсталасці многіх раёнаў краіны к моманту рэвалюцыі і падкрэсліў, што менавіта ў гэтых умовах партыяй па ініцыятыве Леніна быў узяты курс на паскоранае эканамічнае, культурнае і сацыяльна-палітычнае развіццё нацыянальных ускраін.

Партыя бачыла, што практычнае ажыццяўленне гэтага курсу магчыма толькі на аснове вялікай і ўсебаковай дапамогі прыгнечаным у мінулым нацыям і народнасцям з боку больш развітых раёнаў краіны і перш за ўсё з боку рускага народа, яго рабочага класа.

Такая дапамога, гатоўнасць ісці на велізарныя намаганні і, скажам адкрыта, на ахвяры ў імя пераадолення адсталасці нацыянальных ускраін, іх паскоранага развіцця была завешчана пралетарыяту Расіі Леніным як высокі інтэрнацыянальны абавязак. І рускі рабочы клас, рускі народ гэты абавязак з гонарам выканалі. Па сутнасці, гэта быў слаўны подзвіг цэлага класа, цэлага народа, здзейснены ў імя інтэрнацыяналізму. І яго, гэты подзвіг, ніколі не забудуць усе народы нашай Радзімы.

Утварэнне СССР азнаменавала новы этап у развіцці нацыянальных ускраін. Дапамога ім набыла форму паслядоўнага і ўсебаковага курсу агульнасаюзнай гаспадарчай палітыкі. Дастаткова сказаць, што бюджэты раду саюзных рэспублік на працягу многіх гадоў пакрываліся ў сваёй расходнай частцы галоўным чынам за кошт датацый з агульнасаюзнага бюджэту.

Велізарная дапамога была аказана брацкім саюзным рэспублікам у культурным будаўніцтве, ва ўздыме адукацыі, падрыхтоўцы кадраў.

Шматгадовая работа партыі і дзяржавы прынесла выдатны плён, адзначыў дакладчык. За гады існавання Саюза, сказаў ён, аб'ём прамысловай прадукцыі Казахстана ўзрос у 600 разоў, Таджыкскай ССР — больш чым у 500, Кіргізскай — больш чым у 400, Узбекскай — амаль у 240, Туркменскай — больш чым у 130 разоў. У 120 разоў павялічыўся валавы збор бавоўны ва Узбекістане, у 90 разоў — у Туркменіі. Казахстан дае цяпер амаль у 30 разоў больш зерня, чым у 1922 годзе.

Не менш яркія вынікі культурнага развіцця Казахстана і сярэднеазіяцкіх рэспублік. Практычна яны дасягнулі ўзроўню стопрацэнтнай адукаванасці. Амаль палавіна насельніцтва кожнай з іх — гэта людзі з вышэйшай і сярэдняй (поўнай і няпоўнай) адукацыяй.

Значна больш сціплыя дасягненні ў капіталістычным свеце часта называюць «цудам». Але ў тым, што адбылося ў Савецкай Сярэдняй Азіі, у Савецкім Казахстане, мы, камуністы, не бачым нічога звышнатуральнага. Гэта, так сказаць, цуд натуральны — натуральны для Савецкай улады, для сацыялізму, для тых адносін дружбы і брацтва народаў, якія ўсталяваліся ў нашай краіне.

Сведчанне гэтаму не толькі Сярэдняя Азія і Казахстан. Гіганцкімі крокамі за гады Савецкай улады пайшла наперад эканоміка закаўказскіх рэспублік — Грузіі, Азербайджана, Арменіі. У брацкай сям'і савецкіх народаў расцвіла Беларусь, на долю якой выпалі асабліва цяжкія выпрабаванні ў гады Айчыннай вайны. На беларускай зямлі, якая гарэла агнём пад нагамі акупантаў, нанава ўзняліся прыгожыя гарады і вёскі, выраслі буйныя прамысловыя новабудоўлі. Адсталай ускраінай нядаўна была Малдавія. Калі адняць вайну і першыя пасляваенныя гады, якія пайшлі на аднаўленне разбурэнняў, то на развіццё гэтай рэспублікі ў сям'і савецкіх народаў прыпадае не больш як чвэрць стагоддзя. Але які вялізны шлях яна прайшла за гэты кароткі час! Рэспубліка стала адной з жытніц краіны, адным з буйнейшых цэнтраў садоўніцтва і вінаробства. А аб'ём прадукцыі яе прамысловасці вырас у 31 раз.

Словам, на аснове ленінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы напружанай працы ўсяго савецкага народа мы дабіліся таго, што такое звычайнае для старой Расіі паняцце, як адсталая нацыянальная ўскраіна, перастала існаваць. Гэта, таварышы, цудоўная заваёва нашай партыі, заваёва сацыялізму, сацыялістычнай дружбы народаў!

Сацыялістычны лад, адносіны дружбы і брацтва паміж народамі адкрылі найшырэйшыя магчымасці для паскоранага развіцця таксама тых рэспублік і раёнаў, якія к моманту рэвалюцыі знаходзіліся на параўнальна высокім узроўні эканамічнага развіцця.

Да іх ліку адносіцца Украіна. Яна і раней была адной з развітых прамысловых і сельскагаспадарчых частак краіны. Украінская культура абапіралася на даўнія і багатыя традыцыі. Але як жа далёка пайшла з тых рубяжоў Савецкая Украіна!

Магутная металургія, шматгаліновае машынабудаванне, буйное суднабудаванне, развітая хімічная, лёгкая і харчовая індустрыя — вось што такое сучасная украінская прамысловасць, якая вырасла за гады існавання СССР у 176 разоў. Савецкая Украіна сёння — гэта і буйная высокамеханізаваная сельская гаспадарка. Гэта і цудоўныя цэнтры навукі, выдатныя дасягненні культуры і мастацтва.

Другі наглядны прыклад — прыбалтыйскія рэспублікі: Літва, Латвія і Эстонія. Як вядома, к моманту ўваходжання ў Саюз іх нельга было аднесці да адсталых нацыянальных ускраін. Але, стаўшы на сацыялістычны шлях, яны паказалі самыя высокія ў Саюзе тэмпы развіцця.

Асабліва хацелася б сказаць аб выніках развіцця Расійскай Федэрацыі — самай вялікай з нашых рэспублік, першай сярод роўных, як яе па праву называюць усе народы нашай шматнацыянальнай краіны. Гэтай рэспубліцы выпала асаблівая гістарычная роля. З аднаго боку, як самая развітая і буйная, яна стала апорай для развіцця астатніх, аказала ім неацэнную брацкую дапамогу. Але, з другога боку, Расійская Федэрацыя — гэта не толькі Масква, Ленінград, Горкі і іншыя старыя прамысловыя гарады цэнтральнай Расіі. Гэта яшчэ і рэспубліка, якой дасталіся ад мінулага свае ўласныя адсталыя нацыянальныя раёны — 16 аўтаномных рэспублік, што ўпершыню пры Савецкай уладзе атрымалі сваю дзяржаўнасць, 5 аўтаномных абласцей і 10 нацыянальных акруг. На яе тэрыторыі жывуць многія дзесяткі народаў, у тым ліку нямала такіх, якім у царскі час пагражала фізічнае выміранне.

Мала таго, разам з буйнымі прамысловымі і культурнымі цэнтрамі многія спрадвечна рускія раёны атрымалі ў спадчыну ад царскай Расіі глухія, закаснелыя ў сваёй адсталасці закуткі, незлічоныя пашахонні і гарадкі акуравы, з горкім болем апісаныя класікамі айчыннай літаратуры.

Развіццё Расійскай Федэрацыі запатрабавала таму намаганняў па розных напрамках. Гэта — шпаркі прагрэс яе найбольш развітых цэнтраў і раёнаў, якія адыгрывалі і працягваюць адыгрываць ролю асноўнай базы, што забяспечвае рух наперад усяго савецкага грамадства. І ў той жа час гэта — пераадоленне адсталасці значнай часткі рэспублікі, вырашэнне нацыянальнага пытання, а больш дакладна мноства нацыянальных пытанняў, атрыманых у спадчыну ад мінулага ў самой федэрацыі. Нарэшце, гэта — асваенне велізарных тэрыторый Сібіры, Далёкага Усходу і Поўначы.

Працоўныя РСФСР з гонарам справіліся з гэтымі вялікімі задачамі, падкрэсліў тав. Л. І. Брэжнеў. Ён назваў лічбы: за пяцьдзесят гадоў аб'ём прадукцыі вырас больш чым у трыста разоў, прычым толькі за пасляваенныя гады — больш чым у 11 разоў.

Наш паўвекавы вопыт — нагляднае пацвярджэнне ленінскіх ідэй аб перавагах, якія дае буйная, цэнтралізаваная народная гаспадарка ў параўнанні з раздробленай. Зліццё гаспадарчых магчымасцей і рэсурсаў усіх рэспублік паскарае развіццё кожнай з іх — і самай маленькай, і самай вялікай. Агульнасаюзнае гаспадаранне і планаванне далі магчымасць рацыянальна падыходзіць да размяшчэння прадукцыйных сіл, забяспечылі свабоду эканамічнага манеўру, далі магчымасць паглыбіць кааперацыю і спецыялізацыю, пры якой агульная выгада намнога перавышае простую арыфметычную суму складаемых — намаганняў кожнай рэспублікі, раёна і вобласці.

Гэты шлях праверан, ён надзейны, і мы пойдзем па ім да новых дасягненняў, да новых заваяванняў у камуністычным будаўніцтве.

Карэнныя зрухі адбыліся за прайшоўшыя пяцьдзесят гадоў і ў галіне сацыяльных адносін. У Савецкім Саюзе даўно і назаўсёды пакончана з эксплуатацыяй чалавека чалавекам. Цяпер увесь савецкі народ складаецца з сацыялістычных класаў і сацыяльных груп. Ён спаяны агульнасцю мэт і светапогляду. Яго мэта — камунізм, аснова яго светапогляду — марксізм-ленінізм.

Іншымі сталі рабочы клас — асноўная прадукцыйная сіла грамадства, найбольш прагрэсіўны клас сучаснай эпохі, калгаснае сялянства, якое вызвалілася ад прыватнаўласніцкай псіхалогіі, савецкая інтэлігенцыя, якая аддае ўсе свае творчыя сілы справе камуністычнага будаўніцтва.

Ва ўсіх рэспубліках — саюзных і аўтаномных, ва ўсіх нацыянальных абласцях і акругах сфарміраваліся значныя атрады рабочага класа. Менавіта рабочы клас, самы інтэрнацыяналісцкі клас па сваёй сутнасці, адыгрывае рашаючую ролю ў працэсе збліжэння ўсіх нацый і народнасцей нашай краіны.

У кожнай з савецкіх рэспублік, у кожнай вобласці, у кожным нашым буйным горадзе побач жывуць і працуюць прадстаўнікі многіх нацыянальнасцей. У краіне расце колькасць змешаных шлюбаў — яна вылічваецца мільёнамі.

Чым больш інтэнсіўнае эканамічнае і сацыяльнае развіццё кожнай з нацыянальных рэспублік, тым больш выразна праяўляецца там працэс інтэрнацыяналізацыі ўсяго нашага жыцця. Вазьміце, напрыклад, Савецкі Казахстан, які бурна расце. Побач з казахамі цяпер там жывуць мільёны рускіх, сотні тысяч украінцаў, узбекаў, беларусаў і г. д. Казахская культура развіваецца і ўзбагачаецца, усё больш убіраючы ў сябе ўсё лепшае з культуры рускай, украінскай і іншых. Што гэта — дрэнна або добра? Мы, камуністы, з упэўненасцю адказваем: добра, вельмі добра!

За паўстагоддзя існавання СССР у нас склалася і расцвіла адзіная па духу і па свайму прынцыповаму зместу савецкая сацыялістычная культура. Гэта культура ўключае ў сябе найбольш каштоўныя рысы і традыцыі культуры і быту кожнага з народаў нашай Радзімы. У той жа час кожная з савецкіх нацыянальных культур жывіцца не толькі з уласных крыніц, але і чэрпае з духоўнага багацця іншых брацкіх народаў і, са свайго боку, аказвае на іх дабратворны ўплыў, узбагачае іх.

У разнастайнасці нацыянальных форм савецкай сацыялістычнай культуры ўсё больш прыкметнымі становяцца агульныя, інтэрнацыяналісцкія рысы. Нацыянальнае ўсё больш апладатвараецца дасягненнямі іншых брацкіх народаў. Гэта прагрэсіўны працэс. Ён адпавядае духу сацыялізму, інтарэсам усіх народаў нашай краіны. Менавіта так закладваюцца асновы новай, камуністычнай культуры, якая не ведае нацыянальных бар'ераў і ў аднолькавай ступені служыць усім людзям працы.

Хуткі рост міжнацыянальных сувязей і супрацоўніцтва вядзе да павышэння значэння рускай мовы, якая стала мовай узаемных зносін усіх нацый і народнасцей Савецкага Саюза. І ўсіх нас, таварышы, вядома, радуе, што руская мова стала адной з агульнапрызнаных сусветных моваў!

Такім чынам, ломка нацыянальных перагародак, аб значэнні якой не раз гаварыў Ленін, фарміраванне перадумоў для далейшага збліжэння народаў СССР адбываюцца і ў матэрыяльнай, і ў духоўнай сферах, магутнай аб'ядноўваючай асновай сталі агульнасць гістарычных лёсаў усяго савецкага народа, усіх нацый і нацыянальных груп, што складаюць яго, сумесныя традыцыі, погляды, жыццёвы вопыт, якія народжаны паўвекавой сумеснай барацьбой і сумеснай працай.

Адзінства савецкага народа знайшло сваё самае пераканаўчае праяўленне ў гераічных подзвігах у імя абароны сацыялістычнай Айчыны. Саюз і дружба ўсіх нацый і нацыянальнасцей нашай краіны вытрымалі такое найцяжэйшае выпрабаванне, як Вялікая Айчынная вайна. У гэтай вайне сыны і дочкі адзінай Савецкай Айчыны не толькі з гонарам адстаялі свае сацыялістычныя заваёвы, але і выратавалі сусветную цывілізацыю ад фашысцкага варварства, аказаўшы тым самым магутную падтрымку вызваленчай барацьбе народаў. Слава гэтых герояў, слава доблесных абаронцаў нашай Радзімы не згасне ў стагоддзях.

І сёння нашы Узброеныя Сілы — надзейны шчыт сацыялістычнай Радзімы, гарантыя мірнай працы народа, які будуе камунізм. Савецкі народ высока цэніць і любіць сваю армію, разумеючы, што, пакуль існуюць на зямлі сілы агрэсіі, без добра аснашчанай арміі не абысціся. Наша армія — асаблівая армія і ў тым сэнсе, што яна ёсць школа інтэрнацыяналізму, школа выхавання пачуццяў брацтва, салідарнасці і ўзаемнай павагі ўсіх нацый і народнасцей Савецкага Саюза. Нашы Узброеныя Сілы — адзіная дружная сям'я, жывое ўвасабленне сацыялістычнага інтэрнацыяналізму.

Савецкіх людзей усіх нацыянальнасцей аб'ядноўваюць, побач з памяццю аб ратнай славе, таксама легендарныя справы ўдарнікаў першых пяцігодак і працоўная гераіка пасляваеннага аднаўлення, подзвіг пакарыцеляў цаліны і небывалыя па маштабах здзяйсненні на вялікіх будоўлях нашых дзён, асваенне паўночных і ўсходніх раёнаў. У працы і баі нарадзіліся агульныя традыцыі ўсяго савецкага народа. Імі ганарыцца і даражыць кожны савецкі грамадзянін.

Узнікненне ў нашай краіне новай гістарычнай супольнасці людзей — савецкага народа — гэта наша вялікае дасягненне. Мы маем права разглядаць яго як своеасаблівы абагульнены вынік тых эканамічных і сацыяльна-палітычных змен, якія за паўстагоддзя адбыліся ў нашай краіне.

Партыя Леніна, яе калектыўны розум і непахісная воля, яе арганізуючая і накіроўваючая роля — вось тая сіла, якая падрыхтавала стварэнне вялікага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, кіравала яго развіццём на працягу паўстагоддзя, упэўнена вядзе яго наперад.

Партыя аб'ядноўвае перадавых прадстаўнікоў усіх нацый і народнасцей краіны. Яна ёсць найбольш яркае ўвасабленне баявой таварыскасці і дружбы працоўных СССР, непарушнага адзінства ўсяго савецкага народа. Усе камуністы ў нас — да якой бы нацыянальнасці яны ні належалі — члены адзінай Ленінскай партыі. Яны маюць аднолькавыя правы і абавязкі, нясуць аднолькавую адказнасць за лёс краіны.

Партыя дабілася таго, што інтэрнацыяналізм ператварыўся з ідэалу невялікай групы камуністаў у глыбокія перакананні і норму паводзін мільёнаў і мільёнаў савецкіх людзей усіх нацый і народнасцей. Гэта — сапраўды рэвалюцыйны пераварот у грамадскай свядомасці, значэнне якога цяжка пераацаніць. І калі партыі яго ўдалося здзейсніць, то гэта ў велізарнай ступені звязана з яе непрымірымымі адносінамі да ўсялякіх адступленняў ад ленінскай нацыянальнай палітыкі ў яе ўласных радах, з тым, што партыя рашуча змагалася супраць усіх і ўсялякіх ухілаў, цвёрда адстойваючы і творча развіваючы вялікае вучэнне марксізму-ленінізму.

Як вядома, Ленін не раз падкрэсліваў складанасць падыходу да нацыянальных праблем, гаварыў аб неабходнасці праяўляць цярпімасць і далікатнасць адносна нацыянальных пачуццяў, асабліва малых народаў, аб неабходнасці паступовага іх выхавання ў духу інтэрнацыяналізму. Але ад камуністаў любой нацыянальнасці Ленін заўсёды патрабаваў дакладнай і прынцыповай пазіцыі ў нацыянальным пытанні, не дапускаў тут ніякіх скідак і паслабленняў. Ленін заўсёды вёў бязлітасную барацьбу супраць любых праяў нацыяна-

лізму і вялікадзяржаўнага шавінізму ў радах камуністаў.

Могуць спытаць, а ці правамерна наогул гаварыць аб такіх праблемах цяпер, калі ўжо 50 гадоў існуе і паспяхова развіваецца наша шматнацыянальная сацыялістычная дзяржава, калі савецкі народ распачаў будаўніцтва камуністычнага грамадства. Так, таварышы, правамерна.

Мы, падкрэсліў тав. Л. І. Брэжнеў, поўнасцю вырашылі нацыянальнае пытанне ў тых яго аспектах, у якіх яно дасталося нам ад дарэвалюцыйнага мінулага. Але нацыянальныя адносіны і ў грамадстве сталага сацыялізму — гэта рэальнасць, якая пастаянна развіваецца, ставячы новыя праблемы і задачы. Партыя пастаянна трымае гэтыя пытанні ў полі зроку, своечасова вырашае іх у інтарэсах усёй краіны і кожнай асобнай рэспублікі, у інтарэсах камуністычнага будаўніцтва.

Нельга забываць, што нацыяналістычныя забабоны, перабольшанае або скажонае праяўленне нацыянальных пачуццяў — з'ява надзвычай жывучая, якая моцна трымаецца ў псіхалогіі людзей, недастаткова сталых у палітычных адносінах. Яны, гэтыя забабоны, працягваюць захоўвацца нават ва ўмовах, калі аб'ектыўныя перадумовы для якіх-небудзь антаганізмаў у адносінах паміж нацыямі даўно перасталі ўжо існаваць. Нельга выпускаць з-пад увагі і тую акалічнасць, што праяўленні нацыяналістычных тэндэнцый нярэдка пераплятаюцца з месніцтвам, якое аказваецца раднёй нацыяналізму.

Мы не маем права таксама забываць, што нацыяналістычныя перажыткі ўсяляк падаграюцца звонку палітыкамі і прапагандыстамі буржуазнага свету. З найвялікшым запалам хапаюцца нашы класавыя праціўнікі за любыя такія праяўленні, раздуваючы і заахвочваючы іх, у надзеі хоць у нейкай ступені паслабіць адзінства народаў нашай краіны.

Нарэшце, у нашай саюзнай дзяржаве існуюць таксама і аб'ектыўныя праблемы—такія, як пошукі найбольш правільных шляхоў развіцця асобных нацый і народнасцей і найбольш правільнага спалучэння інтарэсаў кожнай з іх з агульнымі інтарэсамі савецкага народа ў цэлым. Вырашаючы гэтыя задачы, наша партыя ў поўнай меры кіруецца ленінскім запаветам аб неабходнасці быць максімальна ўважлівымі да развіцця кожнай нацыі, да яе інтарэсаў.

Далейшае збліжэнне нацый і народнасцей нашай краіны з'яўляецца аб'ектыўным працэсам. Партыя супраць таго, каб яго штучна фарсіраваць, —у гэтым няма ніякай патрэбы, гэты працэс дыктуецца ўсім ходам нашага савецкага жыцця. У той жа час партыя лічыць недапушчальнымі якія б там ні было спробы стрымліваць працэс збліжэння нацый, пад той або іншай маркай чыніць яму перашкоды, штучна замацоўваць нацыянальную адасобленасць, таму што гэта супярэчыла б генеральнаму напрамку развіцця нашага грамадства, інтэрнацыяналістычным ідэалам і ідэалогіі камуністаў, інтарэсам камуністычнага будаўніцтва.

Вырашаючы пытанні далейшага развіцця краіны па шляху, намечаным Леніным, партыя надае вялікае значэнне справе пастаяннага, сістэматычнага і глыбокага выхавання ўсіх грамадзян Савецкага Саюза ў духу інтэрнацыяналізму і савецкага патрыятызму. Гэтыя два паняцці з'яўляюцца для нас неразрыўным цэлым. Вядома, яны выхоўваюцца ў працоўных самім савецкім жыццём, усёй нашай рэчаіснасцю. Але тут неабходны і свядомыя намаганні партыі, усіх работнікаў палітыка-ідэалагічнага фронту. Наша работа ў гэтым напрамку ёсць вельмі важная частка агульнай справы будаўніцтва камунізму.

Шлях, пройдзены за паўстагоддзя, узбройвае нас цвёрдай упэўненасцю ў сіле нашай партыі, нашай дзяржавы, нашага цудоўнага народа. Калі ў мінулым не знайшлося такіх перашкод, якія спынілі б наш пераможны марш да сацыялізму, то цяпер, калі Савецкі Саюз выйшаў на такія вышыні, як сёння, ужо ніхто і ніштo не зможа перагарадзіць нам шлях. Усё, што намеціла партыя Леніна, безумоўна, будзе выканана!

## III. САВЕЦКІ САЮЗ — НАДЗЕЙНАЯ АПОРА БАРАЦЬБЫ НАРОДАЎ ЗА МІР, НАЦЫЯНАЛЬНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ І САЦЫЯЛІЗМ

Паўстагоддзя, якія існуе СССР, адзначаны небывалымі па свайму размаху і глыбіні сацыяльна-палітычнымі зменамі ў свеце.

Сацыялістычная рэвалюцыя перамагла ў радзе краін Еўропы, Азіі і Амерыкі, узнікла сусветная сістэма сацыялізму. У свеце капіталізму магутнай, добра арганізаванай і палітычна актыўнай сілай стаў міжнародны рабочы рух. У большасці краін свету сфарміраваўся і ўзмацнеў яго баявы авангард — камуністычныя і рабочыя партыі. Назаўсёды рухнула створаная імперыялізмам сістэма каланіяльнага прыгнёту.

Карацей кажучы, за гэтае паўстагоддзе свет стаў іншым. І бясспрэчна, што ва ўсіх гэтых гістарычных пераменах немалую ролю адыграў Савецкі Саюз — самы факт яго існавання, сіла прыкладу нашага сацыялістычнага грамадства, актыўная міжнародная палітыка нашай дзяржавы.

Сёння брацкія краіны сацыялізму, камуністычныя партыі, рэвалюцыйна-дэмакратычныя прагрэсіўныя арганізацыі, прафсаюзы, самыя шырокія слаі працоўных на ўсіх кантынентах разам з намі адзначаюць 50-годдзе Савецкага Саюза.

Прызванне нашай міжнароднай палітыкі, працягваў дакладчык, мы бачым у тым, каб умацоўваць мір, які патрэбны нам для будаўніцтва камунізму, патрэбны ўсім сацыялістычным краінам, народам усіх дзяржаў. Таму мы і надалей будзем процідзейнічаць палітыцы агрэсіі і садзейнічаць ліквідацыі ва ўсім свеце ўмоў, якія нараджаюць агрэсіўныя войны.

Прызванне і ролю нашай міжнароднай палітыкі мы бачым у тым, каб садзейнічаць ажыццяўленню ўсімі народамі іх неад'емных правоў і перш за ўсё права на самастойнае, незалежнае развіццё, пры якім яны маглі б карыстацца плёнам сучаснай цывілізацыі.

Прызванне і ролю нашай палітыкі на міжнароднай арэне мы бачым у тым, каб заўсёды быць на баку тых, хто змагаецца супраць імперыялізму, супраць усіх форм эксплуатацыі і прыгнёту, за свабоду і чалавечую годнасць, за дэмакратыю і сацыялізм.

Карацей кажучы, нам дарагі свабода, мір і шчасце нашага народа, і мы жадаем свабоды, міру і шчасця ўсім народам свету!

Наша знешняя палітыка была, ёсць і будзе класавай, сацыялістычнай па свайму зместу і мэтах. І якраз сацыялістычны характар гэтай палітыкі вызначае яе міралюбнасць.

Амаль чвэрць стагоддзя, г. зн. каля палавіны жыцця саюзнай Савецкай дзяржавы, мы ідзём ужо не ў адзіночку, а ў агульным страі з брацкімі краінамі. Мы не раз ужо заяўлялі аб тым, што лічым нашай важнейшай задачай на міжнароднай арэне ўмацаванне і развіццё сусветнай сістэмы сацыялізму.

Калі паўстагоддзя таму назад паўстала пытанне аб аб'яднанні савецкіх рэспублік у адзіны Саюз ССР, У. І. Ленін указваў, што гэта аб'яднанне неабходна як для таго, каб выстаяць перад ваенным націскам імперыялізму, абараніць заваёвы рэвалюцыі, так і для таго, каб сумеснымі намаганнямі больш паспяхова вырашаць мірныя творчыя задачы будаўніцтва сацыялізму.

У прынцыпе тое ж самае адносіцца і да брацкай садружнасці суверэнных сацыялістычных дзяржаў, якія аб'ядналіся ў Варшаўскім Дагаворы, у Савеце Эканамічнай Узаемадапамогі. Мы стварылі гэту садружнасць перш за ўсё для таго, каб процістаяць пагрозе імперыялізму, створаных ім агрэсіўных ваенных блокаў, каб агульнымі сіламі адстаяць справу сацыялізму і міру. І ў нас ёсць усе падставы заявіць, што пазіцыі сацыялізму сёння больш трывалыя, чым калі-небудзь, а справа міру атрымлівае адну перамогу за другой.

Але і ў цяперашніх умовах неабходнасць згуртавання і самага цеснага супрацоўніцтва краін сацыялізму не толькі не зменшылася, а, наадварот, узрасла. Адзінства, супрацоўніцтва, сумесныя дзеянні патрэбны нам цяпер перш за ўсё для таго, каб хутчэй і больш эфектыўна вырашаць задачы развіцця сацыялістычнага грамадства і будаўніцтва камунізму. Адзінства, згуртаванасць, супрацоўніцтва патрэбны нам і для таго, каб як мага больш паспяхова адстойваць і ўмацоўваць такі неабходны ўсім народам мір, замацоўваць разрадку міжнароднай напружанасці, даваць дзейсны адпор любым агрэсіўным вылазкам імперыялізму, любым спробам ушчаміць інтарэсы сацыялізму.

Сёння, сказаў далей таварыш Л. І. Брэжнеў, нельга не спыніцца асобна на нашых адносінах з брацкай сацыялістычнай дзяржавай, імя якой стала для ўсяго свету сімвалам гераічнай барацьбы супраць агрэсіі. Я маю на ўвазе Дэмакратычную Рэспубліку В'етнам.

Самай доўгай вайной у гісторыі Амерыкі называюць у Вашынгтоне в'етнамскую вайну. Гэта правільна. Але трэба дадаць, што гэта і самая брудная з усіх войнаў, якія ведае амерыканская гісторыя.

Цяпер свет стаў сведкам новых злачынстваў амерыканскага імперыялізму ў В'етнаме. Мала таго, што ЗША наўмысна зацягваюць падпісанне пагаднення аб спыненні вайны, прымяняючы розныя непрыгожыя манеўры. Днямі яны аднавілі бамбардзіроўку гарадоў і мініраванне портаў Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

На ўрад ЗША кладзецца цяжкая адказнасць за гэтыя варварскія дзеянні, за тое, што працягваецца кроў в'етнамскага народа. Савецкі Саюз, як і ўсе міралюбівыя дзяржавы, усе народы свету, рашуча і гнеўна асуджае гэтыя акты агрэсіі.

Для ўсіх ужо зразумела, што ваенная авантура ЗША ў В'етнаме пацярпела правал. І ніякія новыя злачынствы не зломяць волю гераічнага в'етнамскага народа, не пахіснуць рашучасці яго сяброў аказваць яму усялякую падтрымку і дапамогу ў яго справядлівай вызваленчай барацьбе.

Гаворачы далей аб нашых цяперашніх адносінах з Кітаем, а больш дакладна — аб пазіцыі Кітая ў адносінах да большасці сацыялістычных дзяржаў, таварыш Л. І. Брэжнеў падкрэсліў, што палітыка Пекіна ненармальная для адносін паміж сацыялістычнымі краінамі, накіраваная супраць інтарэсаў не толькі савецкага, але і кітайскага народаў, супраць інтарэсаў сусветнага сацыялізму, вызваленчай, антыімперыялістычнай барацьбы, супраць інтарэсаў справы міру і бяспекі народаў.

Мы катэгарычна адхіляем такую палітыку. Наша палітыка ў адносінах да Кітая добра вядомая. Яна ясна выражана ў рашэннях XXIV з'езда партыі. Мы яе паслядоўна ажыццяўляем і будзем ажыццяўляць, таму што ўпэўнены ў правільнасці гэтага курсу, заснаванага на цвярозым уліку рэальнасцей цяпер і ў будучыні.

Затым таварыш Л. І. Брэжнеў сказаў, што, кіруючыся запаветамі У. І. Леніна, наша партыя, наш народ актыўна падтрымліваюць нацыянальна-вызваленчую барацьбу народаў і прагрэсіўную палітыку краін, якія вызваліліся ад каланіяльнага прыгнёту. Ён гаварыў аб дружбе паміж Савецкім Саюзам і Індыяй, аб добрых адносінах, што склаліся з многімі міралюбівымі дзяржавамі Азіі і Афрыкі і ў першую чаргу з нашымі непасрэднымі суседзямі — Афганістанам, Іранам і Турцыяй. Добрыя перспектывы існуюць і для развіцця добрых адносін нашай краіны з Бангладэш і Пакістанам.

Шырокія і рознабаковыя адносіны, працягваў тав. Л. І. Брэжнеў, склаліся ў нас з шэрагам арабскіх краін. Увесь ход падзей паказаў, што дружба з Савецкім Саюзам забяспечвае прагрэсіўным арабскім дзяржавам неабходную падтрымку і дапамогу ў самыя цяжкія для іх моманты. Аб гэтым добра ведаюць і ў Егіпце, і ў Сірыі, і ў Іраку, і ў Йемене. У нас ёсць дагаворы аб дружбе з Егіптам і Іракам, і мы будзем развіваць нашы адносіны з гэтымі краінамі на базе гэтых дакументаў. Мы поўныя рашучасці ўмацоўваць дружалюбныя сувязі таксама з Сірыяй, Алжырам і з іншымі арабскімі краінамі.

Міжнароднае становішча цяпер склалася так, што ўсе, жадаючыя рэальнага ўмацавання ўсеагульнага міру, павінны памножыць свае намаганні з мэтай ліквідацыі ачага вайны на Блізкім Усходзе і ліквідацыі вынікаў ізраільскай агрэсіі супраць арабскіх дзяржаў.

Значнае развіццё за апошні час атрымала наша супрацоўніцтва з многімі краінамі Лацінскай Амерыкі. Несумненна, гэта — вынік умацавання іх самастойнасці, сур'ёзных антыімперыялістычных і дэмакратычных зрухаў, што адбыліся там. Адным з пераканаўчых сведчанняў гэтых зрухаў з'яўляецца значнае ўмацаванне ў Лацінскай Амерыцы палітычных пазіцый гераічнай рэвалюцыйнай Кубы.

Мы з глыбокай сімпатыяй ставімся да барацьбы народа Чылі, як і народаў іншых лацінаамерыканскіх краін, за сваю свабоду. Мы ўпэўнены, што гэта барацьба прынясе ім поспех!

Праграма міру, працягваў дакладчык, прынятая XXIV з'ездам КПСС, абвясціла гатоўнасць Савецкага Саюза паглыбляць адносіны ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах з дзяржавамі, якія, са свайго боку, імкнуцца да гэтага. У адносінах да Еўропы задача сфармулявана яшчэ больш дакладна: ажыццявіць карэнны паварот да разрадкі і міру на гэтым кантыненце.

Нямногім больш чым паўтара года прайшло пасля XXIV з'езда, але ўжо цяпер мы з упэўненасцю можам сказаць, што наша партыя і Савецкая дзяржава зрабілі нямала для ажыццяўлення важнейшых палажэнняў праграмы міру.

Разам з нашымі сябрамі і саюзнікамі мы многае зрабілі, каб урэгуляваць праблемы, што дасталіся ў спадчыну ад другой сусветнай вайны, аздаравіць палітычны клімат у свеце. Адносіны з многімі буржуазнымі дзяржавамі, у тым ліку з большасцю краін капіталістычнай Еўропы, перайшлі ў нас на рэйкі разрадкі і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Па меры росту магутнасці і ўплыву СССР і брацкіх краін сацыялізму, па меры актывізацыі нашай міралюбівай палітыкі, а таксама развіцця іншых важных прагрэсіўных працэсаў, што адбываюцца ў сучасным свеце, у палітыцы многіх капіталістычных дзяржаў усё больш даюць сябе знаць элементы рэалізму. Гэта адносіцца перш за ўсё да Францыі, кіраўнікамі якой — генералам дэ Голем, а затым прэзідэнтам Пампіду — ужо некалькі гадоў назад быў узяты пэўны курс на ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам і іншымі сацыялістычнымі дзяржавамі. Гэта адносіцца да Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, у якой рэалістычная знешняя палітыка ўрада, узначальваемага канцлерам Брандтам, аказала значны ўплыў на абстаноўку ў Еўропе. Гэта адносіцца і да Злучаных Штатаў Амерыкі ў той меры, у якой там праяўляецца гатоўнасць адысці ад многіх догм часоў «халоднай вайны», што доўгі час вызначалі накіраванасць усёй амерыканскай знешняй палітыкі.

Іншымі словамі, наша паслядоўная міралюбівая палітыка і ўвесь ход падзей паступова прыводзяць капіталістычны свет да прызнання неабходнасці весці справы з сацыялістычнымі дзяржавамі на аснове мірнага суіснавання.

Далей таварыш Л. І. Брэжнеў сказаў:

Савецкі Саюз будзе настойліва працягваць сваю лінію на забеспячэнне трывалага міру ў Еўропе, якую мы праводзім на працягу ўсіх пасляваенных гадоў і якая прыносіць цяпер вынікі, што радуюць савецкі народ і ўсіх, каму дарагі мір.

Новы раздзел у гісторыі Еўропы, падкрэсліў ён, павінна адкрыць агульнаеўрапейская нарада па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва, за скліканне якой многія гады выступалі сацыялістычныя краіны. Справа ідзе да таго, што гэта нарада адкрыецца не пазней сярэдзіны 1973 года.

Усім вядомы палітычныя прынцыпы, на якіх, на думку СССР і яго саюзнікаў, павінна грунтавацца бяспека народаў Еўропы. Гэта — непарушнасць дзяржаўных меж, неўмяшанне ва ўнутраныя справы, незалежнасць, раўнапраўе, адмова ад прымянення сілы або пагрозы яе прымянення.

Нам думаецца, што надышоў час паставіць у парадак дня і распрацоўку еўрапейскай праграмы эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва.

Умацаванне міру ў Еўропе — гэта вельмі важнае і вялікае пытанне для лёсаў усяго чалавецтва. З усёй энергіяй і мэтанакіраванасцю мы змагаемся за тое, каб Еўропа, якая доўгі час была вулканічным ачагом, не магла парадзіць новую вайну. Мы ясна бачым, што рэакцыя, мілітарызм, рэваншысты розных адценняў не адракліся ад спроб павярнуць увесь ход спраў у Еўропе назад, да мінулага. Але здзейсніцца гэтаму не дадзена. Суадносіны сіл на кантыненце — на карысць міру і мірнага супрацоўніцтва. І мы верым, што войны могуць быць выкраслены з жыцця народаў Еўропы!

Закранаючы адносіны Савецкага Саюза са Злучанымі Штатамі Амерыкі, дакладчык адзначыў, што буйным крокам у развіцці савецка-амерыканскіх адносін з'явіліся перагаворы, якія адбыліся з прэзідэнтам Ніксанам вясной гэтага года ў Маскве. Асабліва важна, што абодва бакі сумесна вызначылі асновы ўзаемаад-





носін паміж СССР і ЗША, прычым зрабілі гэта, зыходзячы з пераканання, што ў ядзерны век для гэтых узаемаадносін немагчыма ніякая іншая аснова, акрамя мірнага суіснавання. Менавіта ў гэтым галоўны сэнс адпаведнага савецка-амерыканскага дакумента, падпісанага ў маі сёлетняга года.

Калі абедзве дзяржавы—СССР і ЗША — сапраўды будуць рухацца па шляху, сумесна намечанаму ў час маскоўскіх перагавораў, то, як мы мяркуем, у ходзе далейшых кантактаў могуць стаць магчымымі новыя значныя крокі па развіццю савецка-амерыканскіх адносін, на карысць народаў абедзвюх краін і ўсеагульнага міру. Але, — і гэта трэба падкрэсліць з усёй яснасцю, — многае будзе залежаць ад таго, як разгорнуцца падзеі ў бліжэйшы час і, у прыватнасці, які абарот прыме пытанне аб спыненні вайны ў В'етнаме.

Зыходзячы з прынцыповых асноў нашай палітыкі міру, добрасуседства і дружбы паміж народамі, Савецкі Саюз вылучыў ідэю стварэння сістэмы калектыўнай бяспекі ў Азіі.

У будучым годзе павінны адбыцца важныя савецка-японскія перагаворы. Іх мэта—урэгуляваць пытанні, якія засталіся з часоў другой сусветнай вайны, падвесці дагаворную аснову пад адносіны паміж нашымі краінамі, падкрэсліў дакладчык.

З першых год свайго існавання, працягваў ён, Савецкі Саюз вядзе барацьбу за раззбраенне. Пры самым актыўным удзеле нашай краіны за апошняе дзесяцігоддзе ўдалося дабіцца заключэння шэрагу важных дагавораў па такіх пытаннях, як забарона выпрабаванняў ядзернай зброі, яе нераспаўсюджанне, забарона бактэрыялагічнай зброі і іншыя. Буйной падзеяй міжнароднага жыцця стала прынящце Генеральнай Асамблеяй, таксама па нашай ініцыятыве, рэзалюцыі аб непрымяненні сілы ў міжнародных адносінах і забароне навечна прымянення ядзернай зброі.

Міралюбівы курс нашай знешняй палітыкі нязменны, і ў сучаснай абстаноўцы магчымасці міралюбівых сіл у іх барацьбе супраць сіл агрэсіі і вайны вялікія, як ніколі. Савецкі Саюз і надалей будзе весці справы ў напрамку разрадкі і ўмацавання міру, настойліва дабіваючыся развязвання вузлоў міжнароднай напружанасці, наладжвання ўстойлівых, добрых адносін з дзяржавамі процілеглай грамадскай сістэмы.

КПСС зыходзіла і зыходзіць з таго, што класавая барацьба дзвюх сістэм — капіталістычнай і сацыялістычнай — у сферы эканомікі, палітыкі і, зразумела, ідэалогіі будзе працягвацца. Інакш і быць не можа, бо светапогляд і класавыя мэты сацыялізму і капіталізму процілеглыя і непрымірымыя. Але мы будзем дабівацца, каб такая гістарычна непазбежная барацьба перайшла ў рэчышча, якое не пагражае войнамі, небяспечнымі канфліктамі, бескантрольнай гонкай узбраенняў. Гэта будзе вялізным выйгрышам для справы міру ва ўсім свеце, для інтарэсаў усіх народаў, усіх дзяржаў.

Выказваючы нязменнае жаданне супрацоўнічаць у справе захавання міру з усімі ўрадамі, якія да гэтага гатовы, Краіна Саветаў адначасова падтрымлівае і няўхільна пашырае супрацоўніцтва з міралюбівай грамадскасцю, з народамі ўсіх краін. Перад грамадскімі арганізацыямі і масавымі рухамі ўзнікаюць зараз новыя магчымасці ў барацьбе за мір. Савецкая грамадскасць і надалей будзе актыўна ўдзельнічаць у іх карыснай дзейнасці. Мы ўпэўнены, што вялікую ролю ў барацьбе народаў за мір адыграе сусветны прадстаячы кангрэс міралюбівых сіл.

Савецкі Саюз верны сцягу сацыялізму і міру, якому прысягнуў у час свайго нараджэння. І ва ўрачысты дзень пяцідзесяцігоддзя Савецкага Саюза мы зноў заяўляем усяму свету: Камуністычная партыя, наша дзяржава, савецкі народ будуць і надалей упэўнена і высока несці сцяг ленінскай знешняй палітыкі — палітыкі міру і дружбы паміж народамі!

## IV. САВЕЦКІ САЮЗ ІДЗЕ ПА ШЛЯХУ, НАМЕЧАНАМУ XXIV З'ЕЗДАМ

Вось ужо амаль два гады савецкі народ працуе над выкананнем рашэнняў XXIV з'езда КПСС, які намеціў шырокую праграму эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу нашай Радзімы. Задачы, якія паставіў з'езд, вялізныя па маштабу і вельмі складаныя. Справа ў тым, што мы, камуністы, — народ неспакойны. Зрабіць як мага больш для паляпшэння жыцця народа, для яго шчасця — і зрабіць па магчымасці хутчэй. У гэтым, напэўна, адна з асаблівасцей нашай партыі.

Другая яе асаблівасць — у тым, што партыя не толькі сама змагаецца за народныя інтарэсы, але і ўмее падымаць на гэту барацьбу, узнімаць за сабой самыя шырокія масы працоўных. І народ адказвае партыі высокай актыўнасцю, масавым працоўным гераізмам.

Шматлікія і разнастайныя грамадска-палітычныя і працоўныя пачыны ў гэтыя перадсвяточныя месяцы. Усё гэта сапраўдная крыніца народнай ініцыятывы, невычэрпная крыніца жыццёвай сілы нашага грамадства.

Камуністычнае будаўніцтва нараджае сапраўдных герояў працы, людзей, якія ўвасабляюць наш, савецкі лад жыцця. Яны паказваюць цудоўныя ўзоры высокай свядомасці, узоры камуністычных адносін да працы.

Цэнтральны Камітэт партыі, партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі на месцах зрабілі многае для таго, каб цудоўныя пачыны працоўных сталі здабыткам усёй краіны. Старонкі друку, навіны па тэлебачанню і радыё за апошнія месяцы нагадвалі аператыўныя зводкі з поля гіганцкай бітвы. Аб выкананні сваіх абавязацельстваў, аб перамогах у працоўным спаборніцтве рапартавалі розныя атрады працоўных з усіх канцоў краіны.

Вынікі ўсенароднага спаборніцтва ў гонар 50-годдзя СССР паказваюць, што працоўныя Краіны Саветаў стрымалі сваё слова, сустрэлі слаўны юбілей добрымі працоўнымі падарункамі. Поспехі пераможцаў у спаборніцтве адзначаны Радзімай. Больш трох тысяч калектываў працоўных узнагароджаны юбілейнымі ганаровымі знакамі Цэнтральнага Камітэта КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. Павіншуем узнагароджаных, таварышы, і пажадаем ім новых слаўных спраў на карысць савецкага народа!

Да канца другога года пяцігодкі мы падыходзім з паказчыкамі, якія гавораць аб значным росце вядучых галін прамысловасці. Дастаткова сказаць, што аб'ём прамысловай прадукцыі, выпрацаванай у адным толькі 1972 годзе, у два разы больш выпуску прадукцыі ўсіх даваенных пяцігодак. За 1971 і 1972 гады заводы і фабрыкі краіны далі ў паўтара раза больш прадукцыі, чым за першыя два гады папярэдняй, восьмай пяцігодкі.

Многімі новымі дасягненнямі адзначана стваральная дзейнасць савецкага народа за гэтыя два гады. Некаторыя з іх можна па праву назваць гістарычнымі.

З ацэнкай «выдатна» ўступіла ў строй на поўную магутнасць—6 мільёнаў кілават—самая буйная ў свеце Красноярская ГЭС на Енісеі. Магутнасць Красноярскай ГЭС у тры разы перавышае магутнасць самай буйной гідраэлектрастанцыі за мяжой. А непадалёк ад Масквы, на старажытнай Цвярской зямлі, набрала поўную сілу Канакоўская ГРЭС. 2 млн. 400 тысяч кілават гэтай станцыі і звыш 4 млн. кілават, якія складаюць сукупную магутнасць Ладыжынскай ГРЭС, Саратаўскай ГЭС і Эстонскай ГРЭС, якія ўвайшлі ў строй за апошнія гады,—усё гэта разам утварае значны ўклад у энергетычную гаспадарку еўрапейскай часткі Савецкага Саюза.

У студзені 1972 года пачала дзейнічаць другая чарга Волжскага аўтамабільнага завода імя 50-годдзя СССР у горадзе Тальяці. Напярэдадні свята закончана будаўніцтва трэцяй чаргі. Цяпер гэта сучаснае прадпрыемства, дзе працуюць дзесяткі тысяч кваліфікаваных рабочых, тэхнікаў, інжынераў, можа даваць у год 660 тысяч легкавых аўтамашын. Гэта буйное дасягненне нашага аўтамабілебудавання.

Поўным ходам разгарнулася і будаўніцтва другога гіганта — завода цяжкіх грузавых аўтамабіляў на берагах Камы ў Набярэжных Чалнах.

Высокімі тэмпамі працягвалі расці нафтавая і газавая прамысловасць краіны. Адзін толькі прырост здабычы нафты за мінулыя два гады склаў сорак чатыры з паловай мільёна тон — гэта больш, чым уся здабыча нафты ў СССР у 1950 годзе.

Партыя, дзяржава і ўвесь савецкі народ, працягваў тав. Л. І. Брэжнеў, прыкладаюць вялікія намаганні, каб забяспечыць надзейны рост сельскагаспадарчай вытворчасці. На аснове рашэнняў сакавіцкага Пленума 1965 года і двух апошніх з'ездаў партыі за гады восьмай пяцігодкі было зроблена многае.

У цэлым нам удалося зацікавіць працаўнікоў вёскі ва ўздыме сельскагаспадарчай вытворчасці, дамагчыся пэўнага росту рэнтабельнасці земляробства і жывёлагадоўлі. Умацавалася матэрыяльна-тэхнічная база і эканоміка калгасаў і саўгасаў, дасягнуты прыкметны рост ураджайнасці і прадуктыўнасці жывёлагадоўлі.

Гэта эканамічны бок пытання. Другі, не менш важны, сацыяльны бок заключаецца ў тым, што за гэтыя гады ажыццёўлены сур'ёзны ўздым узроўню жыцця працоўных вёскі, гэта значыць, значнай часткі савецкага народа.

Тры галоўныя састаўныя часткі палітыкі партыі ў галіне сельскай гаспадаркі на сучасным этапе—гэта комплексная механізацыя, хімізацыя і шырокая меліярацыя зямель. На гэту справу мы асігнавалі столькі сродкаў, колькі ніколі раней не выдзялялася сельскай гаспадарцы. Намечаныя планы паспяхова рэалізуюцца па ўсіх напрамках. Цяпер амаль усе трактарныя заводы краіны і іншыя заводы сельскагаспадарчага машынабудавання рэканструіруюцца, ідзе працэс нараджэння новага пакалення сельскагаспадарчай тэхнікі—больш магутнай, больш высокапрадукцыйнай. За гэту пяцігодку намечана павялічыць у 1,6 раза вытворчасць мінеральных угнаенняў у краіне. Разгарнуліся і ўсё больш шырацца работы па арашэнню і асушэнню зямель у розных раёнах Савецкага Саюза.

Як вядома, сёлетні 1972 год выдаўся на рэдкасць цяжкім з пункту гледжання ўмоў надвор'я. Пасля марознай бясснежнай зімы настала небывалая засуха, якая ахапіла значныя раёны краіны. У еўрапейскай частцы на вялікіх плошчах загінулі пасевы збожжавых і іншых культур.

У гэтых складаных умовах партыя прыняла ўсе неабходныя меры. Стыхійным нягодам была проціпастаўлена свядомая воля мільёнаў савецкіх людзей, арганізаваных партыяй, якія ўступілі ў бой з прыродай, маючы ў руках магутныя сродкі сучаснай тэхнікі. Усе сілы былі мабілізаваны на тое, каб хутка і без страт сабраць збожжа, забяспечыць жывёлагадоўлю кармамі.

Асаблівая адказнасць лягла на працаўнікоў Казахстана, Сібіры і шэрагу абласцей Урала, дзе быў вырашчаны добры ўраджай. Тут важна было забяспечыць максімальна хуткую ўборку, паколькі нечаканае наступленне халадоў і снегапады маглі прывесці да страты ўраджаю. Сярод працаўнікоў вёскі ва ўсходніх раёнах краіны ўзнік рух пад красамоўным лозунгам: «Ні гадзіны прамаруджання, ні грама страт!». Разгарнулася сапраўдная бітва за хлеб.

І сібіракі, уральцы, працоўныя Казахстана не падкачалі, апраўдалі надзеі і давер краіны. Яны вырасцілі добры ўраджай і самааддана працавалі на ўборцы. Дзякуючы высокай арганізаванасці і ўдарнай рабоце сабралі нядрэнны ўраджай і перавыканалі планы продажу збожжа дзяржаве шэраг абласцей і аўтаномных рэспублік цэнтра і поўдня Расійскай Федэрацыі, Украіны, калгасы і саўгасы Беларусі, Малдавіі, рэспублік Прыбалтыкі, Закаўказзя і Сярэдняй Азіі.

У выніку валавы збор збожжа па краіне дасягнуў 168 мільёнаў тон, або больш чым 10,3 мільярда пудоў. Гэта крыху вышэй за сярэднегадавы ўзровень збору збожжа, дасягнутага ў восьмай пяцігодцы. А дзяржаўныя нарыхтоўкі склалі 60 мільёнаў тон. Гэта ў аб'ёме ўстаноўленага цвёрдага плана, але, канешне, менш таго, што мы разлічвалі атрымаць пры больш-менш нармальных умовах.

Нельга не сказаць асобна аб нашых цудоўных бавоўнаробах. Іх праца ў гэтым годзе таксама была вельмі нялёгкай. Умовы надвор'я і для бавоўны выдаліся цяжкія. Але гэта не спалохала здабытчыкаў белага золата краіны. На партыйных сходах, на вытворчых нарадах, на міжрэспубліканскай сустрэчы ў Ташкенце бавоўнаробы Сярэдняй Азіі, Казахстана і Азербайджана прынялі на сябе высокія абавязацельствы. Яны абяцалі даць народу больш бавоўны, чым у мінулым, высокаўраджайным годзе: сем мільёнаў сто трыццаць пяць тысяч тон. Працавалі напружана, самааддана. І слова сваё стрымалі з гонарам. Прынятыя абавязацельствы выканалі і перавыканалі. Атрыман самы вялікі за ўсю папярэднюю гісторыю валавы збор бавоўны.

Вопыт гэтага выключна неспрыяльнага для сельскай гаспадаркі года яшчэ раз пераканаўча паказаў, наколькі вырасла наша краіна, якім моцным і здаровым з'яўляецца наша развітае сацыялістычнае грамадства.

У ранейшыя дарэвалюцыйныя часы або ў першыя гады Савецкай улады такая суровая зіма і такая доўгая засуха немінуча прывялі б да самых сумных вынікаў, да бедстваў, у многіх раёнах краіны. А цяпер, як паказвае жыццё, мы маем сілы справіцца з падобнымі цяжкасцямі.

Па разліках вучоных і спецыялістаў, пры узроўні агратэхнікі 1955 года ва ўмовах такога надвор'я, якое было ў сёлетнім годзе, мы сабралі б з плошчы, якую засяваем цяпер, усяго каля 90 мільёнаў тон зерня. І калі мы сёлета атрымалі 168 мільёнаў тон, то гэта сама па сабе немалая заваёва.

Канечне, мы панеслі з-за неўраджаю зерневых і бульбы значныя страты. Але яны могуць і павінны быць папоўнены напружанай працай і ў сельскай гаспадарцы, і ў прамысловасці. Цяжкасці, бясспрэчна, ёсць, але нармальны ход жыцця краіны і яе грамадзян не будзе парушан. Мы і надалей будзем прымаць меры, каб трымаць неабходны ўзровень забеспячэння насельніцтва.

Прайшоўшы год з усёй сілай пацвердзіў правільнасць лініі партыі на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі. У той жа час ён пераканаўча гаворыць аб тым, што намечаныя меры трэба ажыццяўляць хутчэй, што намаганні ў гэтым напрамку неабходна памножыць.

Вопыт гэтага года паказаў, што найменшыя страты ад зменлівасці надвор'я панеслі тыя гаспадаркі, дзе захоўваюцца ўсе патрабаванні агратэхнікі, добра пастаўлена насенняводства, правільна прымяняюцца ўгнаенні, выкарыстоўваюцца водагаспадарчыя ўстройствы. Словам, дзе вялі справу добра, там і вынікі засухі не былі такімі цяжкімі. Так што прырода прыродай, а работа работай, і лепшая зброя ў барацьбе з нягодамі стыхіі—гэта высокая культура гаспадарання, актыўная, самаадданая праца.

Узняць нашу сельскую гаспадарку да ўзроўню, які будзе па-сапраўднаму адпавядаць магчымасцям сучаснай тэхнікі і патрабаванням камуністычнага будаўніцтва, — такая мэта, пастаўленая партыяй. І дружнай работай працаўнікоў палёў, усё больш шырокай падтрымкай вёскі з боку прамысловасці, намаганнямі ўсяго народа пад кіраўніцтвам партыі мы гэтай мэты дасягнем.

Менавіта ўпартая праца савецкіх людзей у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, менавіта іх працоўныя дасягненні даюць магчымасць паслядоўна выконваць праграму росту народнага дабрабыту, ухваленую з'ездам партыі.

Але і ў дні вялікіх свят, працягваў дакладчык, і ў працоўныя будні мы добра бачым не толькі дасягненні, але і нашы вузкія месцы і недахопы, засяроджваем увагу і намаганні народа на іх хутчэйшае ўхіленне. А недахопы ў нас, на жаль, яшчэ ёсць.

Наўрад ці ёсць патрэба прыводзіць цяпер іх падрабязны пералік. Мы, камуністы, — людзі самакрытычныя і не раз ужо аб гэтых недахопах востра і канкрэтна гаварылі. Самы істотны з іх заключаецца ў тым, што ў развіцці народнай гаспадаркі да гэтага часу недастаткова поўна і эфектыўна выкарыстоўваюцца багатыя ўнутраныя рэзервы, інтэнсіўныя, якасныя фактары. У шэрагу галін, на многіх прадпрыемствах, будоўлях, у калгасах і саўгасах марудна зніжаюцца працоўныя выдаткі, а таксама выдаткі сыравіны і матэрыялаў.

Галоўная задача цяпер — гэта крута змяніць арыентацыю, перанесці ўпор на інтэнсіўныя метады вядзення гаспадаркі, забяспечыць тым самым сур'ёзнае павышэнне эфектыўнасці эканомікі. Гаворка ідзе аб тым, каб эканамічны рост усё ў большай ступені адбываўся шляхам павышэння прадукцыйнасці працы і паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, шляхам больш поўнага выкарыстання дзеючых вытворчых магутнасцей, шляхам павышэння аддачы ад кожнага ўкладзенага ў гаспадарку рубля, кожнай тоны выкарыстоўваемага металу, паліва, цэменту, угнаенняў.

У гэтым сутнасць павароту ў эканамічнай палітыцы, якога патрабаваў XXIV з'езд партыі. Толькі на такой аснове можна паспяхова вырашыць велізарныя па маштабу задачы, пастаўленыя перад народнай гаспадаркай у бягучай пяцігодцы. Толькі на аснове павышэння эфектыўнасці экано-

мікі можна адшукаць сродкі і рэсурсы, дастатковыя для таго, каб забяспечыць адначасова значны рост дабрабыту працоўных, магчымасці шпаркага развіцця гаспадаркі ў будучыні, патрэбнасці падтрымання на належным узроўні абараназдольнасці краіны.

Партыя добра ведала, што выкананне заданняў пяцігодкі патрабуе вялікай напружанай працы, велізарнай энергіі і арганізаванасці, творчага падыходу і смеласці ў вырашэнні ўзнікаючых праблем. Іменна таму не раз падкрэслівалася, што, калі мы не ўзнімем усю гаспадарчую дзейнасць на больш высокі ўзровень, не здзейснім сапраўднага павароту да павышэння эфектыўнасці эканомікі, то вырашыць пастаўленыя задачы будзе цяжка.

Людзі, якім партыя даверыла кіраўніцтва тымі або іншымі ўчасткамі гаспадарчай дзейнасці, закліка780 няспынна ўдасканальваць метады і стыль гэтага кіраўніцтва. Яны павінны ў поўнай меры валодаць пачуццём новага, праяўляць ініцыятыву, своечасова выкарыстоўваць усе магчымасці, якія адкрывае навукова-тэхнічны прагрэс. Бальшавіцкая непрымірымасць да недахопаў, да любога раўнадушша ў рабоце, глыбокая партыйная адказнасць за тое, каб атрымаць найбольшы народнагаспадарчы эфект, затрачваючы найменшыя рэсурсы, павінны стаць неад'емнымі якасцямі кожнага кіраўніка.

Мы адзначаем юбілей СССР напярэдадні новага года. Наступаючы год мае асаблівае значэнне — гэта трэці год, які ў многім вырашае лёс усёй пяцігодкі. І задача заключаецца ў тым, каб не толькі паспяхова справіцца з асноўнымі планавымі заданнямі будучага года, зацверджанымі днямі сесіяй Вярхоўнага Савета СССР, але і значна іх перавысіць, стварыць неабходны задзел на наступныя гады.

За кошт чаго гэта можа быць зроблена? У першую чаргу — за кошт рэалізацыі наяўных у нас вялікіх рэзерваў. Гэта павінна быць зроблена шляхам строгага рэжыму эканоміі, канцэнтрацыі сіл і сродкаў на пускавых аб'ектах, умацавання працоўнай дысцыпліны і павышэння арганізаванасці ў рабоце.

Але гэта яшчэ не ўсё. Самыя добрыя планы не будуць выкананы, калі тыя, хто працуе ля станкоў або ў полі, на жывёлагадоўчай ферме, у навукова-даследчым інстытуце або ў сферы паслуг, не ўкладуць у справу часцінку свайго сэрца, сваёй душы. Энергія высокаарганізаванай працы, памножаная на любоў да сваёй краіны, сацыялістычнай Радзімы, здольная тварыць цуды. Так было ў нас у гады першых пяцігодак, у гады Вялікай Айчыннай вайны, у гады пасляваеннага аднаўлення і мірнага будаўніцтва, у гады, поўныя гераізму і працоўнага энтузіязму мас.

Мы звяртаемся да працоўных горада і вёскі і гаворым прама: выкананне плана 1973 года ў вашых руках. Мы ўпэўнены, што наш рабочы клас, наша сялянства, інтэлігенцыя адкажуць на заклік партыі новымі працоўнымі дасягненнямі, не пашкадуюць сіл для таго, каб заданні трэцяга, рашаючага года пяцігодкі былі выкананы паспяхова.

Сканцэнтроўваючы ўвагу на актуальных бягучых задачах, мы не забываем аб перспектывах нашага руху наперад. Сацыялізм, падкрэсліў таварыш Л. І. Брэжнеў, неаддзялімы ад навуковага планавання эканомікі.

У адпаведнасці з устаноўкай з'езда ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі ў гэтым годзе Пастанову аб распрацоўцы доўгатэрміновага перспектыўнага плана развіцця народнай гаспадаркі Савецкага Саюза на 1976—1990 гады. Работа па складанню гэтага плана (яна будзе весціся да 1975 года) з'яўляецца важнейшай гаспадарча-палітычнай задачай. Ленін гаварыў у сувязі з планам ГАЭЛРО, што доўгатэрміновая праграма развіцця народнай гаспадаркі — гэта, па сутнасці, другая праграма партыі. Думаецца, так мы павінны падыходзіць да справы і ў даным выпадку. Мы павінны, сказаў далей дакладчык, узняць дабрабыт савецкага народа на такую вышыню, якая наглядна пакажа ўсім, нават самым закаранелым скептыкам, магчымасці і перавагі нашага ладу ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

З рухам наперад у справе стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму, з павышэннем узроўню народнага дабрабыту ўсё большае значэнне набывае такая задача, як фарміраванне свядомасці людзей, выхаванне ў кожным савецкім чалавеку якасцей, неабходных для будаўніка камунізму.

За гады Савецкай улады нязмерна абагаціліся духоўнае жыццё народа, яго культурны ўзровень, вырасла яго палітычная свядомасць.

Аднак усё гэта не азначае, што палітыка-выхаваўчыя і ідэалагічныя задачы, якія стаяць перад нашым сацыялістычным грамадствам, ужо вырашаны. Не сакрэт, што ў нас да гэтага часу яшчэ нярэдка даюць сябе адчуваць такія атрыманыя ў спадчыну ад мінулага, чужыя сацыялізму па сваёй сутнасці сацыяльныя балячкі, як нядобрасумленныя адносіны да працы, расхлябанасць, недысцыплінаванасць, скнарасць, розныя парушэнні норм сацыялістычнага ладу жыцця. Партыя лічыць сваім абавязкам звяртаць увагу ўсяго нашага грамадства на гэтыя з'явы, мабілізоўваць народ на рашучую барацьбу з імі, на іх пераадоленне, бо без гэтага нам камунізму не пабудаваць.

Самая сутнасць камунізму вызначаецца тым, што грамадзяне валодаюць высокай ступенню свядомасці і пачуццём адказнасці перад грамадствам, высокімі маральнымі якасцямі. Менавіта таму выхаванне грамадскай свядомасці ўсіх грамадзян — адна з важнейшых састаўных частак працэсу камуністычнага будаўніцтва.

Мы будуем не царства гультаёў, дзе рэкі малочныя ды берагі кісельныя, а самае арганізаванае, самае працалюбівае грамадства ў гісторыі чалавецтва. І жыць у гэтым грамадстве будуць самыя працалюбівыя і добрасумленныя, арганізаваныя і высокасвядомыя людзі. Так што перад намі вялізнай важнасці работа. Яна, напэўна, зойме немалы час, бо псіхалогія чалавека перайначваецца куды марудней, чым матэрыяльныя асновы яго жыцця.

Работу гэту партыя вядзе і будзе весці ўсё больш шырокім фронтам. Тут практычна мае значэнне ўсё: і правільная атмасфера ў сям'і, і ўмелая арганізацыя вучэбнага працэсу, і здаровая абстаноўка ў працоўным калектыве, і добра пастаўленае бытавое абслугоўванне насельніцтва і многае іншае.

Поспехі камуністычнага будаўніцтва, падкрэсліў таварыш Л. І. Брэжнеў, у многім залежаць ад развіцця марксісцка-ленінскай тэорыі— нашага вернага навуковага компаса. Рашэнні з'ездаў і пленумаў ЦК нашай партыі, важнейшыя партыйныя дакументы—гэта прыклад творчага развіцця марксізму-ленінізму. Але сам характар задач, якія стаяць перад намі, патрабуе ўсё больш актыўнай распрацоўкі тэарэтычных праблем грамадскага развіцця, творчага падыходу да з'яў жыцця.

Падобна таму як у прамысловасці і сельскай гаспадарцы мы не можам цяпер рабіць літаральна ні кроку наперад без дапамогі навейшых дасягненняў навукі, так і ў нашым грамадскім жыцці развіццё навукі — неабходная база для прыняцця рашэнняў, для паўсядзённай практыкі. Партыя заўсёды падтрымлівала і будзе падтрымліваць наватарскі, ленінскі падыход да вывучэння складаных грамадскіх з'яў, намаганні нашых тэарэтычных кадраў, накіраваныя на развіццё грамадскай тэорыі, на творчы аналіз рэчаіснасці.

Вялікая работа прадстаіць нам у справе дзяржаўнага будаўніцтва, далейшага развіцця і ўдасканальвання сацыялістычнай дэмакратыі. Асноўныя напрамкі гэтай работы ўказаны ў рэзалюцыі XXIV з'езда КПСС. Гэта — яшчэ больш актыўны ўдзел мас у кіраванні, больш поўнае ажыццяўленне Саветамі сваіх разнастайных функцый у кіраўніцтве грамадскім жыццём; больш паслядоўнае правядзенне ў жыццё прынцыпу справаздачнасці выканаўчых органаў прадстаўнічым; далейшае ўмацаванне сацыялістычнай законнасці; паляпшэнне дзейнасці народнага кантролю.

Адным з буйнейшых пытанняў далейшага развіцця Савецкага Саюза, якое нам трэба рашыць у бліжэйшай будучыні, з'яўляецца пытанне аб Канстытуцыі СССР.

Кожная наша Канстытуцыя была ўзыходзячай ступенню ў развіцці сацыялістычнай савецкай дзяржавы, новым этапам у разгортванні сацыялістычнай дэмакратыі. Канстытуцыя РСФСР 1918 года заканадаўча замацавала нараджэнне створанай Кастрычнікам дзяржавы дыктатуры пралетарыяту. Канстытуцыя СССР 1924 года была першай Канстытуцыяй шматнацыянальнай савецкай дзяржавы, якая аформіла добраахвотнае аб'яднанне брацкіх рэспублік у адзіную дзяржаву. Канстытуцыя 1936 года, якая дзейнічае зараз, адлюстравала факт ліквідацыі эксплуататарскіх класаў у нашай краіне, замацавала перамогу сацыялізму.

Але жыццё ідзе наперад. За тры з палавінай дзесяцігоддзі, якія прайшлі з часу прыняцця Канстытуцыі, у развіцці савецкага грамадства, у сусветным развіцці, у расстаноўцы класавых сіл на міжнароднай арэне адбыліся прынцыповыя змены. У чым іх галоўная сутнасць? Калі гаварыць коратка, яна складаецца з наступнага.

Замест асноў сацыялістычнай эканомікі мы маем цяпер сталую, добра аснашчаную тэхнічна сістэму гаспадаркі як у горадзе, так і ў вёсцы. Гэта сістэма сфарміравалася ўжо ва ўмовах перамогшага сацыялізму, г. зн. пасля прыняцця Канстытуцыі 1936 года.

Пры захаванні вядучай ролі рабочага класа ў нас адбыўся прыкметны працэс збліжэння ўсіх класаў і сацыяльных груп, усё больш канкрэтна усталёўваецца сацыяльная аднароднасць сацыялістычнага грамадства. Актыўна ідзе сціранне істотнай розніцы паміж фізічнай і разумовай працай, паміж умовамі працы і жыцця ў горадзе і вёсцы.

Вялізны скачок наперад зрабіла пасля вайны наша грамадства ў галіне культурнага развіцця. Цяпер Савецкі Саюз стаў краінай суцэльнай адукаванасці, а дзве трэці занятага насельніцтва маюць сярэднюю і вышэйшую адукацыю.

Значна рушыла наперад развіццё сацыялістычнай дэмакратыі—умацаваны правапарадак, развіта заканадаўства, павысілася роля і актыўнасць Саветаў.

Усе гэтыя карэнныя змены дазволілі нашай партыі зрабіць важны тэарэтычны і палітычны вывад аб тым, што ў Савецкім Саюзе пад кіраўніцтвам партыі Леніна самаадданай працай савецкіх людзей пабудавана развітае сацыялістычнае грамадства. Дзяржава дыктатуры пралетарыяту, выканаўшы сваю вялікую гістарычную місію, паступова перарасла ў агульнанародную сацыялістычную дзяржаву працоўных, кіруючай сілай якой застаецца рабочы клас. Першая ў свеце краіна перамогшага сацыялізму першай прыступіла да практычнага рашэння задач будаўніцтва камунізму. Буйныя змены адбыліся і ў міжнародным становішчы Савецкага Саюза.

Ёсць падстава лічыць, што ўсе гэтыя змены ў жыцці нашай Радзімы і задачы, якія паўсталі перад нашым грамадствам у новых умовах, павінны знайсці сваё адлюстраванне ў Канстытуцыі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Мы аб гэтым ужо гаварылі раней, і адпаведная падрыхтоўчая работа вядзецца. Цяпер, на думку Цэнтральнага Камітэта партыі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў СССР, надыходзіць час завяршыць гэту работу. Адпаведныя прапановы аб новым тэксце Канстытуцыі мы разлічваем яшчэ да наступнага з'езда партыі вынесці на ўсенароднае абмеркаванне.

Няма сумнення, што гэта будзе вялікая гістарычная падзея ў жыцці Савецкага Саюза. Яна не толькі дапаможа савецкім людзям і ўсяму свету лепш асэнсаваць дасягнутае намі, падвесці вынікі пройдзенага намі шляху, але і пралье новае святло на далейшае развіццё нашага савецкага сацыялістычнага грамадства, якое ідзе па шляху да камунізму.

●

Цудоўны гістарычны шлях, які прайшоў за паўстагоддзя заснаваны Леніным Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік,—родны дом амаль чвэрці мільярда свабодных і раўнапраўных людзей больш ста нацыянальнасцей. Савецкія людзі маюць усе падставы любіць сваю вялікую Радзіму, ганарыцца ёю.

58 гадоў назад, у час сусветнай імперыялістычнай вайны, Уладзімір Ільіч Ленін супрацьпаставіў разгулу шавінізму, які распальвалі эксплуататарскія правячыя колы, пралетарскае, камуністычнае разуменне нацыянальнага гонару. Ён пісаў аб нацыянальным гонары вялікаросаў, г. зн. рускіх, што яны па праву могуць ганарыцца слаўнымі рэвалюцыйнымі традыцыямі свайго народа, подзвігамі герояў вызваленчай барацьбы, якія выйшлі з яго асяроддзя.

Так разумеў Ленін—верны сын рускага народа і вялікі рэвалюцыянер-інтэрнацыяналіст— пачуццё нацыянальнага гонару. Ленін заклікаў свядомых рускіх пралетарыяў быць вернымі «пралетарскаму братэрству ўсіх народаў Расіі, г. зн. справе сацыялізму» (Поўны збор твораў, т. 26, стар. 110).

Цяпер, праз паўвека пасля ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, мы можам з поўнай падставай гаварыць аб больш шырокім разуменні, аб вялікім патрыятычным пачуцці ўсяго нашага народа—аб агульнанацыянальным гонары савецкага чалавека.

Савецкім людзям чужая і агідная фанабэрыстая думка аб перавазе адных народаў над другімі—і тым больш вар'яцкія ідэі нацыянальнай або расавай выключнасці. Савецкія людзі—інтэрнацыяналісты. Так выхоўвае іх партыя, так выхоўвае іх уся наша рэчаіснасць. Але савецкія людзі—усе савецкія людзі, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці або мовы,—ганарацца сваёй вялікай Радзімай—прадвесніцай новай эры ў гісторыі чалавецтва, ганарацца натхнёнай працай мільёнаў, якія пабудавалі пад кіраўніцтвам камуністаў новае, па-сапраўднаму справядлівае і свабоднае грамадства, якія стварылі непарушны брацкі саюз многіх народаў. Яны ганарацца подзвігам мільёнаў герояў—сыноў і дачок гэтых народаў, якія аддалі сваё жыццё ў сумеснай барацьбе за гэтыя заваёвы. Яны ганарацца вялікімі здзяйсненнямі вызваленай працы, дасягненнямі навукі, росквітам культуры, увасобленай у разнастайныя нацыянальныя формы, усім ладам жыцця савецкага народа, які паказаў чалавецтву новыя далягляды, новыя маральныя каштоўнасці і ідэалы.

Агульнанацыянальная гордасць савецкага чалавека — гэта вялікае, ёмістае, вельмі багатае па свайму зместу пачуццё. Яно глыбейшае і шырэйшае за натуральныя нацыянальныя пачуцці кожнага паасобку з народаў, якія складаюць нашу краіну. Яно увабрала ў сябе ўсё лепшае, што створана працай, адвагай, творчым геніем мільёнаў і мільёнаў савецкіх людзей.

Уся краіна ганарыцца працоўнымі подзвігамі рабочых і калгаснікаў, выдатнымі адкрыццямі вучоных кожнай з нашых рэспублік, майстэрствам умельцаў, несмяротнымі творамі народнага мастацтва кожнай з брацкіх нацый. Выдатныя своеасаблівыя творы літаратуры, жывапісу, музыкі, якія даў кожны з народаў Савецкага Саюза—усё гэта даўно ўжо стала нашым агульным здабыткам. Усё гэта і многае-многае іншае, што пералічыць проста немагчыма, складае адзінае агульнае незлічонае нацыянальнае багацце савецкіх людзей.

І чым далей мы ідзем па шляху будаўніцтва камунізму, чым больш разнастайнымі і трывалымі становяцца эканамічныя, культурныя і іншыя сувязі, што злучаюць ў адно ўсе народы СССР, тым больш моцныя і глыбокія высакародныя пачуцці вялікай агульнасці, якія мы называем агульнанацыянальнай гордасцю савецкага чалавека.

Немагчыма пераацаніць уклад у гісторыю чалавецтва, які зрабіў за паўстагоддзя створаны па ініцыятыве Леніна, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Тое, што ў СССР упершыню было пабудавана сацыялістычнае грамадства, упершыню было паказана на практыцы, што такое па-сапраўднаму раўнапраўныя брацкія адносіны паміж народамі, безумоўна, будуць памятаць і цаніць усе народы ва ўсе часы.

Цяпер Савецкі Саюз крочыць далей наперад.

Савецкі Саюз ідзе насустрач камунізму.

Мы ведаем, сказаў у заключэнне таварыш Л. І. Брэжнеў, шлях да яго не будзе лёгкім. Спатрэбіцца напружанне сіл і энергіі кожнага з народаў нашай краіны і ўсіх іх разам. Мы ведаем — спатрэбіцца вялікая і натхнёная праца, арганізаванасць, высокая палітычная свядомасць. Мы ведаем таксама і тое, што савецкія людзі валодаюць усімі гэтымі якасцямі, здолеюць іх праявіць, здолеюць дабіцца пастаўленых перад сабой цудоўных мэт. Зарука гэтаму—наша агульная цвёрдая рашучасць давесці да канца справу, пачатую пад кіраўніцтвам Леніна ў легендарныя дні Кастрычніка. Зарука гэтаму — адзіная воля савецкага народа, якая знайшла сваё выяўленне ў палітыцы нашай Ленінскай Камуністычнай партыі.

50 ГОД УТВАРЭННЯ СССР

# ПАД СОНЦАМ ЛЕНІНСКАЙ ДРУЖБЫ

*УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ЦК КПБ, ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР СУМЕСНА З ПАРТЫЙНЫМІ І САВЕЦКІМІ ОРГАНАМІ МІНСКА І МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, ПРАДСТАЎНІКАМІ ПРАЦОЎНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ І ВОІНСКІХ ЧАСЦЕЙ, ПРЫСВЕЧАНАЕ 50-ГОДДЗЮ ЎТВАРЭННЯ СССР*

**У маляўнічым убранні Мінск. У гэтыя дні, як і заўсёды напярэдадні вялікіх святаў, у самым яркім уборы сустракае ён удзельнікаў урачыстага пасяджэння, прысвечанага юбілею СССР.**

**Палац спорту. На яго фасадзе — Герб Савецкага Саюза і лічба «50», Дзяржаўны флаг СССР і флагі ўсіх саюзных рэспублік. У строгім і ўрачыстым убранні зала Палаца. У глыбіні сцэны — Дзяржаўны флаг СССР і герб нашай Радзімы, скульптурны партрэт У. І. Леніна. Ля сцягоў рэспублікі Мінскай вобласці і горада Мінска застыла ганаровая варта. Ля флагаў саюзных рэспублік — дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах.**

**15 снежня сюды, на ўрачыстае пасяджэнне ЦК КП Беларусі, Вярхоўнага Савета БССР сумесна з партыйнымі і савецкімі органамі горада Мінска і Мінскай вобласці, прадстаўнікамі калектываў працоўных і воінскіх часцей, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння СССР, прыйшлі тысячы людзей, гордых усведамленнем непарушнага маральна-палітычнага адзінства нашага грамадства, маналітнай згуртаванасці партыі і народа, моцных верай у вечную дружбу і інтэрнацыянальнае брацтва.**

**...14 гадзін. Цёпла сустракаюць прысутныя з'яўленне ў прэзідыуме таварышаў П. М. Машэрава, А. Н. Аксёнава, Ц. Я. Кісялёва, Л. Г. Кляцкова, А. Т. Кузьміка, У. Е. Лабанка, У. Ф. Міцкевіча, М. Н. Палазава, І. Я. Палякова, А. А. Смірнова, Ф. А. Сурганава, М. І. Лагіра, Я. П. Нікулкіна, У. І. Падрэза, І. М. Траццяка і іншых кіраўнікоў Камуністычнай партыі і ўрада рэспублікі, ветэранаў ленінскай партыі, Герояў Савецкага Саюза і Герояў Сацыялістычнай Працы, зарубежных гасцей.**

**Кароткім уступным словам пасяджэнне адкрыў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў. Ён цёпла вітаў удзельнікаў урачыстага пасяджэння, усіх працоўных Беларусі з вялікім святам.**

**Гучаць дзяржаўныя гімны Саюза ССР і Беларускай рэспублікі.**

**Пад бурныя апладысменты ўдзельнікаў урачыстага пасяджэння выбіраецца ганаровы прэзідыум у саставе Палітбюро Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**Ф. А. Сурганаў дае слова для даклада «Аб 50-годдзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» кандыдату ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першаму сакратару Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі П. М. Машэраву.**

**Даклад П. М. Машэрава быў выслухан з вялікай увагай і неаднаразова перапыняўся апладысментамі.**

**Пасля перапынку старшынствуе другі сакратар ЦК КПБ А. Н. Аксёнаў. Ён дае слова ветэранам Камуністычнай партыі. Ля трыбуны — група старэйшых камуністаў. Зала сустракае іх бурнымі апладысментамі. Юныя ленінцы сардэчна віншуюць ветэранаў партыі з вялікім святам і падносяць ім кветкі. З прамовай выступае член КПСС з 1920 года, актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны і падпольнага рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі М. С. Арэхва.**

**Слаўны рабочы клас Краіны Саветаў заўсёды ішоў у авангардзе барацьбітоў за камунізм. Вось чаму з такой цеплынёй сустрэлі ўдзельнікі ўрачыстага пасяджэння дэлегацыю гераічнага рабочага класа рэспублікі. На грудзях у многіх гараць Залатыя Зоркі Герояў Сацыялістычнай Працы, ордэны і медалі, якімі Радзіма адзначыла іх самаадданую працу, вялікі ўклад у справу будаўніцтва камунізму.**

**Дэлегацыя з Дзяржаўным флагам СССР праходзіць па зале і падымаецца на сцэну. Слова атрымлівае токар Мінскага завода аўтаматычных ліній, Герой Сацыялістычнай Працы А. М. Віташкевіч.**

**Выконваючы запаветы вялікага Леніна, Камуністычная партыя на ўсіх этапах будаўніцтва камунізму ўмацоўвала непарушны саюз рабочага класа і працоўнага сялянства. І сёння працаўнікі горада і вёскі спаяны адзінай мэтай, адзінай воляй памнажаць багацці Радзімы, мацаваць яе магутнасць. У залу з Дзяржаўным флагам СССР уваходзіць група сельскіх працаўнікоў. Гэта знатныя людзі рэспублікі—дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР, Героі Сацыялістычнай Працы.**

**Ад імя працаўнікоў вёскі выступае старшыня калгаса імя Чкалава Салігорскага раёна, кандыдат эка-**



Іван ШАМЯКІН,

Старшыня Вярхоўнага Савета БССР

# САЮЗ

50 ГОД жыцця і росквіту найвялікшай многанацыянальнай дзяржавы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік нагляднa даказалі ўсяму свету, што «марксісцка-ленінскае вучэнне па нацыянальнаму пытанню вытрымала выпрабаванне на практыцы, а ленінская нацыянальная палітыка атрымала поўную перамогу».

Асновы сённяшняй еднасці і дружбы народаў закладваліся Марксам, Энгельсам, Леніным у іх вучэнні аб барацьбе класаў, аб сацыялістычнай рэвалюцыі, аб ролі і месцы нацыянальнага пытання ў рэвалюцыйным пераўтварэнні свету. Толькі стварэнне Леніным партыі новага тыпу—партыі пралетарыяту, ісцінна інтэрнацыянальнай па свайму духу і па сваёй сутнасці, выхаванне гвардыі сапраўдных марксістаў-інтэрнацыяналістаў дало магчымасць адзіна правільна вырашыць складанае нацыянальнае пытанне, як падначаленае інтарэсам класавай барацьбы пралетарыяту.

Толькі за партыяй, што непахісна і высока трымала сцяг інтэрнацыяналізму ў дыме імперыялістычнай вайны, калі многія іншыя сацыялістычныя партыі скаціліся ў балота шавінізму і нацыяналізму, — толькі за такой партыяй маглі пайсці рабочыя, сяляне, салдаты ўсіх нацыянальнасцей Расійскай імперыі.

Ленін называў пралетарскі сацыялізм інтэрнацыянальным сацыялізмам.

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі перанесла нацыянальнае пытанне з тэорыі ў практыку штодзённай дзейнасці партыі па ўмацаванню Савецкай улады. Карэнны паварот у сусветнай гісторыі адначасова з'явіўся паваротам у гісторыі нацыі і нацыянальных адносін.

Трывалы фундамент дружбы і Саюза народаў быў закладзены першымі дэкрэтамі Савецкай улады — «Дэкрэтам аб міры», «Дэкрэтам аб зямлі», «Дэкларацыяй правоў Расіі», у якой гаварылася: «У эпоху царызму народы Расіі сістэматычна натраўляліся друг на друга... Гэтай ганебнай палітыцы натраўлівання няма і не павінна быць звароту. Цяпер яна павінна быць заменена палітыкай добраахвотнага і чэснага саюза народаў Расіі».

Палітычная аснова дзяржаўнага ладу — Саветы дэпутатаў рабочых, сялян і салдат — па сваёй прыродзе былі ўжо інтэрнацыянальныя.

Грамадзянская вайна — абарона заваёў Кастрычніка ад унутранай контррэвалюцыі і імперыялістычнай інтэрвенцыі, пасляваенная разруха, патрабаванні вядзення планавай гаспадаркі — усё гэта падказвала працоўным маладых савецкіх рэспублік адзіны шлях да поўнай перамогі сацыялізму — Саюз усіх народаў Расіі.

Калі сёння, з вышыні 50-гадовага вопыту нашай дружбы і еднасці, з вышыні сусветнай славы савецкага народа і Савецкага Саюза чытаеш дакументы таго часу, не можаш не захапіцца і не ўразіцца Ленінскай зоркасці, прадбачлівасці і мудрасці, глыбокаму інтэрнацыяналізму камуністаў ленінскага гарту, якія ўзначальвалі партыйныя арганізацыі ў рэспубліках, краях, ажыццяўлялі ленінскую нацыянальную палітыку.

Рух народаў за аб'яднанне набыў шырокі размах і гэтаму руху не маглі ўжо перашкодзіць усялякія буржуазныя і дробнабуржуазныя шавіністычныя, нацыяналістычныя, укланісцкія патугі.

Партыя праводзіла гіганцкую работу па ўмацаванню давер'я паміж народамі. Павінна была перамагчы ленінская ідэя раўнапраўя ўсіх народаў, усіх нацый, вялікіх і малых. І яна перамагла!

Натуральным было імкненне савецкіх рэспублік да федэратыўнага аб'яднання.

Вось перада мной гістарычны дакумент — Пастанова IV Усебеларускага з'езда Саветаў, прынятая 18 снежня 1922 года. Яна пачынаецца словамі:

«Савецкая Беларусь толькі нядаўна вызваленая з няволі міжнароднага капіталу злучанымі намаганнямі рабочых і сялян Беларусі пры самай актыўнай падтрымцы працоўных усіх астатніх брацкіх савецкіх рэспублік, у сваёй штодзённай працы, палітычным і гаспадарчым будаўніцтве пастаянна помніць аб адзінстве задач і метадаў барацьбы, якія звязвалі працоўных усіх братніх рэспублік».

Беларусь, спаласаваная акопамі першай сусветнай вайны, толькі што перанесла трэці паход Антанты — нашэсце арміі Пілсудскага. Чырвоная Армія, палкі Тухачэўскага і эскадроны Будзённага, памаглі беларускаму народу разграміць белапольскіх захопнікаў. Частка Беларусі — яе заходнія вобласці засталіся пад акупацыяй панскай Польшчы. Маючы гэты горкі вопыт, беларускі народ, якому ўпершыню ў гісторыі Кастрычніцкая рэвалюцыя дала дзяржаўнасць, вельмі добра ўсведамляў, што абараніць знясіленую, эканамічна слабую рэспубліку ад акул імперыялізму, узняць яе зруйнаваную войнамі гаспадарку можна толькі ў брацкім саюзе з вялікім рускім народам, украінскім, з народамі Закаўказзя і Туркестана.

Усебеларускі з'езд Саветаў «даручае сваёй дэлегацыі, якая выбіраецца для ўдзелу на ўсерасійскім з'ездзе Саветаў, даць у час работы з'езда ўрачыстае абяцанне і здзейсніць фармальныя акты, якія замацуюць брацкі Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік».

Гэта ўрачыстае абяцанне сваіх дэлегатаў быць верным брацкаму Саюзу беларускі народ, як і ўсе савецкія народы, з гонарам і высокай адказнасцю выконвае ўжо вось паўстагоддзя.

Няма сумнення, што толькі дзякуючы ленінскай эканамічнай палітыцы, дзякуючы дапамозе рускага, другіх савецкіх народаў рэспубліка з надзвычайнай хуткасцю ўздымала прамысловасць, сельскую гаспадарку, культуру. Пры гэтым адбываліся сур'ёзныя сацыяльныя якасныя зрухі. Не аднаўляліся дарэвалюцыйныя кустарныя промыслы — будаваліся новыя заводы, электрастанцыі, стваралася цяжкая індустрыя, рос рабочы клас. Кааперыраванне дробных сельскіх гаспадарак, арганізацыя калгасаў, стварэнне саўгасаў адкрывала шырокі прастор для ўздыму сельскай гаспадаркі, для заможнага жыцця народа. Упершыню за сваю шматвекавую гісторыю беларусы атрымалі права развіваць сваю нацыянальную культуру. У краі, дзе да рэвалюцыі на сто чалавек толькі дзесяць лічыліся пісьменнымі — умелі чытаць і пісаць, створаны былі тысячы школ і ўжо ў першае дзесяцігоддзе Савецкай улады восемдзесят пяць працэнтаў насельніцтва атрымала пачатковую адукацыю. Адкрыты быў першы беларускі універсітэт, інстытуты, тэхнікумы, Акадэмія навук. Выходзілі дзесяткі газет, сотні кніг на роднай мове. Развівалася нацыянальная літаратура і мастацтва.

За выдатныя дасягненні ў будаўніцтве сацыялізму Беларуская ССР была адзначана ў 1937 годзе вышэйшай узнагародай Радзімы — ордэнам Леніна.

Палітычная, эканамічная, ваенная магутнасць Саюза ССР дала магчымасць беларускаму народу ў верасні 1939 года ўз'яднаць заходнія землі, што дваццаць гадоў былі ў няволі, у адзіную савецкую рэспубліку.

«Суровай праверкай трываласці СССР была Вялікая Айчынная вайна», — гаворыцца ў Пастанове ЦК КПСС аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР. Беларускі народ, які адзін з першых прыняў на сябе ўдар нямецка-фашысцкай браніраванай арды, які перажыў трохгадовы страшэнны жах акупацыі, над якім вісела пагроза поўнага фізічнага знішчэння, яшчэ раз з новай сілай адчуў і зразумеў, што значыць для яго лёсу, для яго жыцця, шчасця і будучыні нацыі саюз і дружба ўсіх савецкіх народаў.

У першыя ж дні вайны, на граніцы, у легендарнай Брэсцкай крэпасці, пад Баранавічамі і Мінскам, пад Магілёвам і Гомелем, абараняючы сваю вялікую Радзіму—Савецкі Саюз і свае народы, стаялі насмерць, плячо ў плячо рускі і беларус, украінец і ўзбек, грузін і таджык, татарын і башкір — сыны ўсіх нацый і народнасцей. Над іх свяшчэннымі магіламі зараз узвышаюцца велічныя помнікі, летам і зімой палымнеюць жывыя кветкі, і заўсёды дзеці нашы і ўнукі будуць прыходзіць туды, каб схіліць галовы з думкай пра вялікае братэрства, змацаванае крывёю, пра братэрства, што дало ім, дзецям і ўнукам герояў, мір і шчасце.

Выхаваны партыяй у духу савецкага патрыятызму, пазнаўшы свабоду, беларускі народ не мог скарыцца перад фашысцкай сілай, нягледзячы на звярыную жорсткасць акупантаў.

Ва ўсіх савецкіх народаў у гады вайны Беларусь атрымала пачэснае званне: рэспубліка-партызанка.

Мільён беларусаў змагаўся на франтах, амаль паўмільёна граміла нямецкія тылы, базіруючыся ў беларускіх лясах. Паўмільёна тых, хто атрымаў зброю, быў арганізаваны ў атрады, брыгады, злучэнні! А колькі ў іх было баявых памочнікаў — падпольшчыкаў у гарадах, сувязных у кожным сяле! І ў кожным атрадзе побач з беларусамі ішлі на баявыя аперацыі рускія, украінцы, літоўцы, латышы... Амаль у кожнай рэспубліцы сустракаем мы цяпер былых беларускіх партызан.

Імёны Герояў Савецкага Саюза ўзбека Мамадалі Тапвалдзіева, карачаеўца Асмана Касаева, легендарнага партызанскага камандзіра грузіна Цемаза Шаўгулідзе, асеціна Харытона Хатагава, казаха Тактагамі Жамгельдзінава выбіты на мемарыяльнай сцяне ў Беларускім музеі Айчыннай вайны.

Экспедыцыі карнікаў супраць партызан і нямецка-фашысцкія войскі, што адступалі пад ударамі Савецкай Арміі, ператварылі зямлю беларускую ў «зону пустыні». Былі разбураны і спалены ўсе гарады, дзевяць тысяч сёл, нярэдка з усімі жыхарамі. Загінула 2 мільёны 300 тысяч чалавек — кожны чацвёрты.

Расказваюць: пасля вызвалення Мінска ў 1944 годзе рэспубліку наведала група англійскіх і амерыканскіх журналістаў. Убачыўшы руіны Мінска і Віцебска і ад былых сёл — адны коміны, жур-

50 год утварэння СССР

# ВЫСОКАЯ ЎЗНАГАРОДА АБАВЯЗВАЕ

**У мінулым нумары нашай газеты паведамлялася аб узнагароджанні калектываў Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, Гродзенскага абласнога драмтэатра, Жлобінскай фабрыкі мастацкай інкрустацыі, выдавецтва «Беларусь» і ўпраўлення кінафікацыі Магілёўскага аблвыканкома юбілейнымі ганаровымі граматамі ЦК КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР і Беларускага савета прафсаюзаў за поспехі, дасягнутыя ў рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве ў гонар 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР.**

**Рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» звярнулася да кіраўнікоў названых калектываў з просьбай пракаменціраваць гэту выдатную падзею.**

**М. СТАЛЬМАХОВА,**
дырэктар Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна

— Бібліятэка наша — адна з самых буйных у рэспубліцы. Кніжны фонд яе складае каля паўмільёна тамоў, а колькасць чытачоў— звыш 20 тысяч. Дадайце да гэтага 560 тысяч тамоў, якія стаяць на кніжных паліцах 1127 бібліятэк вобласці (мы ажыццяўляем метадычнае кіраўніцтва гэтымі бібліятэкамі), дадайце 10 мільёнаў кнігавыдач за год і вам стане зразумела, якое значэнне набыла кніга на Гомельшчыне.

Наша работа сёлета праходзіла пад знакам пяцідзесяцігоддзя СССР. Перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі, росквіт усіх сацыялістычных рэспублік краіны, брацтва народаў, інтэрнацыяналізм — вось тэмы нашых шматлікіх выставак, канферэнцый чытачоў, вусных часопісаў, вечароў і г. д.

Шматлюдна ў нас заўсёды на вечарах сустрэч з вядомымі людзьмі горада і вобласці, вечарах інтэрнацыянальнай дружбы (у адным з іх прынялі ўдзел прадстаўнікі васьмі нацыянальнасцей). Паспяхова прайшлі канферэнцыі чытачоў «Айчына мая», «У адзінай сям'і народаў», «Мастацтва народаў СССР», вечар сустрэчы аматараў кнігі з гомельскімі, бранскімі і чарнігаўскімі літаратарамі, вечары, прысвечаныя творчасці песняроў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сувязі з іх 90-годдзем.

**Ул. КУРУТА,**
дырэктар Гродзенскага абласнога драмтэатра

— Цяжка перадаць нашу радасць, калі мы даведаліся пра ўзнагароду. На мітынгу з нагоды гэтай вялікай падзеі, гучала ўсхваляванае слова ўдзячнасці Радзіме, якая высока цэніць працу работнікаў савецкага мастацтва.

Калектыў нашага тэатра сёлета паказаў некалькі цікавых спектакляў. Сярод іх — «Блудны сын», «Прымакі», «Самы апошні дзень», «Сірано дэ Бержарак» і інш. Некаторыя з гэтых работ нам дапамаглі аформіць калегі з братніх рэспублік. Так, спектакль «Блудны сын» афармляў мастак з Рыгі Пэтэрс Розенбергс, «Сірано дэ Бержарак» — мастак Малога тэатра Вадзім Клотц.

У нас ёсць нямала добрых акцёрскіх работ, скажам, А. Цароў і А. Панкрат у «Блудным сыне», Ул. Мішчанчук у «Калі кахаеш», С. Аляксандраў у «Самым апошнім дні», Т. Апіёк-Нікалаева і Ю. Барысёнак у «Сірано...». Цікавая, на наш погляд, рэжысура спектакляў «Блудны сын» і «Сірано дэ Бержарак» заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР А. Струніна.

Мы надаём вялікае значэнне прапагандзе высокага савецкага мастацтва. Сёлета ў Гродна адкрыты гарадскі народны універсітэт тэатральнага мастацтва, які наведвае больш пяцісот чалавек. Лекцыі тут чытаюць рэжысёры, артысты, мастакі тэатра. Пасля кожнай лекцыі праводзіцца прагляд і абмеркаванне спектакля.

Заключаны дагавор творчага супрацоўніцтва з калгасам «Авангард» Гродзенскага раёна, дзе старшынёй Герой Сацыялістычнай Працы П. Дзяншчыкоў. У сельгасарцелі паказана ўжо два спектаклі. Там жа адкрыт сельскі універсітэт культуры. Першы занятак па тэме «Жыццё і творчасць Янкі Купалы» правёў рэжысёр тэатра В. Скарабагатаў. Хлебаробы прагледзелі спектакль «Прымакі».

Наогул, мы трымаем цесную сувязь з вясковымі гледачамі. За адзінаццаць месяцаў гэтага года паказана на сяле 183 спектаклі, якія прагледзела каля 86 тысяч чалавек.

У нас неблагія і фінансавыя паказчыкі. Гадавы план па прыбытках выканан ужо на 107,6 працэнта.

**Л. ЛІПОЎСКІ,**
дырэктар Жлобінскай фабрыкі мастацкай інкрустацыі

— На нашай фабрыцы захоўваюцца дзве ўзнагароды, якія вельмі дарагія калектыву. Гэта — юбілейны памятны сцяг ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савета Міністраў БССР, якім прадпрыемства было ўзнагароджана ў гонар 50-годдзя БССР і кампартыі рэспублікі, і юбілейная ганаровая грамата, якую мы атрымалі ў дні святкавання стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Зараз да іх прыбавіцца і юбілейная ганаровая грамата за поспехі ў сацыялістычным спаборніцтве ў гонар 50-годдзя СССР.

Прадукцыя фабрыкі карыстаецца добрым попытам у рэспубліцы і за яе межамі. Свае вырабы мы адпраўляем на экспарт у дзевяць краін.

У асноўным гэта шкатулкі і пано, інкруставаныя саломкай, вырабы з рога, строчкавышываныя вырабы.

Сёлета нашы мастакі распрацавалі 75 відаў новых мастацкіх вырабаў. Тэма іх — еднасць народаў Савецкага Саюза.

Сярод вырабаў, якія карыстаюцца асаблівым попытам, — інкруставаныя саломкай шкатулкі: «Курган Славы», «Хатынь», «Брэсцкая крэпасць-герой», «Плошча Перамогі ў Мінску», сувеніры з беларускім нацыянальным арнаментам, пано, выкананыя па беларускіх нацыянальных матывах.

У гэтым інтэрв'ю, відаць, не абысціся без лічбаў. За дзесяць месяцаў гэтага года 120 рабочых фабрыкі выканалі свае індывідуальныя гадавыя заданні. Увогуле ж, фабрыка выканала гадавы план выпуску прадукцыі да 17 снежня.

**М. АНТОНЕНКА,**
галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь»

— Пяцідзесяцігоддзе Саюза ССР — гэта перамога ленінскіх ідэй аб раўнапраўі, дружбе і брацтве народаў. З імем Леніна звязаны ўсе поспехі Савецкай Беларусі ў развіцці эканомікі, навукі і культуры. Таму гаворку пра работу нашага выдавецтва ў юбілейным годзе мне хочацца пачаць менавіта з кнігі «У. І. Ленін і Беларусь», якую ўжо атрымаў чытач. У гэтым даследаванні на вялікім канкрэтна-гістарычным матэрыяле паказана роля Уладзіміра Ільіча ў барацьбе за бальшавізацыю сацыял-дэмакратычных арганізацый Беларусі ў дарэвалюцыйны час, тая велізарная дапамога, якую ён аказваў партыйным арганізацыям рэспублікі, усяму беларускаму народу ў станаўленні ўлады Саветаў.

Вось яшчэ дзве прыгожыя, святочна выдадзеныя кнігі: «Пад сцягам брацтва» і «За дружбу народаў». У іх раскрываюцца вытокі станаўлення і развіцця дружбы і брацкай ўзаемадапамогі беларускага народа з вялікім рускім народам, з іншымі народамі нашай шматнацыянальнай радзімы.

Наш чытач з цікавасцю сустрэў выхад серыі кніг аб саюзных рэспубліках — «Расійская федэрацыя», «Украінская ССР», «Узбекская ССР» і інш., дзе на пераканаўчых прыкладах і фактах расказваецца пра поспехі братніх народаў ва ўсіх галінах эканамічнага і культурнага жыцця.

Сённяшняя Беларусь — гэта край працавітага і гасціннага народа, край, дзе кіпіць руплівая, стваральная праца. Рэспубліцы-працаўніцы прысвечаны прыгожыя альбомы «Савецкая Беларусь», «Сказ аб Палессі», «Агні Мінска», «Брэст» і многія іншыя ілюстраваныя буклеты, брашуры, плакаты, якія выдавецтва выпусціла да слаўнага юбілею.

Вялікая падзея для ўсіх нас — выхад у гэтым годзе 43-га тома чацвёртага выдання твораў Уладзіміра Ільіча Леніна на беларускай мове, зборніка артыкулаў «Выдатны ўклад XXIV з'езда КПСС у марксісцка-ленінскую навуку».

Згодна з планам, у 1972 годзе мы павінны выпусціць 248 выданняў, агульным тыражом 6332 тысяч экземпляраў. За адзінаццаць месяцаў гэтыя паказчыкі адпаведна склалі 223 і 6797 тысяч. План рэалізацыі прадукцыі за тры кварталы выкананы на 105 працэнтаў. Атрымана 322 тысячы рублёў чыстага прыбытку.

**Г. МАНУЙЛА,**
начальнік упраўлення кінафікацыі Магілёўскага аблвыканкома

— Я не памылюся, калі скажу, што кіно сёння самы папулярны, самы масавы від мастацтва. Вось некалькі лічбаў. За адзінаццаць месяцаў гэтага года ў кінатэатрах і клубах вобласці было дадзена звыш 300 тысяч кінасеансаў, якія наведала больш 15 мільёнаў гледачоў.

Гадавы план кінафікатары Магілёўшчыны выканалі да Дня канстытуцыі — 5 снежня, а калектыў Кіраўскага галаўнога кінатэатра, які, дарэчы, быў ініцыятарам сацыялістычнага спаборніцтва — да 7 лістапада. Дадамо, што план мы выканалі, як кажуць, па ўсіх пунктах, а сюды ўваходзяць і такія паказчыкі, як дэманстрацыя сельскагаспадарчых і дзіцячых фільмаў.

Вялікую ролю ў паляпшэнні работы шматлікага калектыву кінафікатараў вобласці адыграла Пастанова Савета Міністраў БССР «Аб мерах па паляпшэнню кінаабслугоўвання насельніцтва рэспублікі».

Была шырока арганізавана прапаганда перадавога вопыту лепшых кінамеханікаў — ім прысвячаліся лістоўкі, плакаты, брашуры.

Мы пастаянна дбаем пра пашырэнне кінасеткі. Сёлета яна вырасла на 45 установак. Неўзабаве добры падарунак атрымаюць гледачы Клімавіч. Тут будуецца кінатэатр на 400 месц.

Сёлетні год застанецца ў нашай памяці, як год асаблівы, год слаўнага юбілею Саюза ССР.

Ва ўсіх кінатэатрах вобласці праходзіць фестываль фільмаў пад дэвізам «Саюз раўнапраўных». Быў таксама арганізаваны тэматычны паказ кінастужак вытворчасці ўсіх саюзных рэспублік.

Мы шчаслівыя, што наша праца ў юбілейным годзе атрымала высокую ацэнку. Зразумела, узнагарода да многага абавязвае.

ПАДЗЕІ, ФАКТЫ, НАВІНЫ

## М. САВІЦКІ — НАРОДНЫ МАСТАК БССР



Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці беларускага выяўленчага мастацтва Савіцкаму Міхаілу Андрэевічу прысвоена званне народнага мастака Беларускай ССР.

●

**Міхаіл Андрэевіч Савіцкі нарадзіўся 18 лютага 1922 года ў вёсцы Звіняча Віцебскай вобласці. Мінскі мастацкі тэхнікум скончыў у 1951 годзе. У 1957 годзе з адзнакай скончыў Маскоўскі дзяржаўны мастацкі інстытут імя Сурыкава.**

**У рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выстаўках удзельнічаў карцінамі: «Партызаны», «Віцебскія вароты», «Партызанская мадонна», «Хлябы», «Рабочыя», «Пакаранне смерцю», «Бальшавікі», «У полі» і інш. Работы М. Савіцкага карыстаюцца шырокай вядомасцю.**

**Карціны «Хлябы», «Рабочыя», «Пакаранне смерцю» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларускай ССР 1969 года.**

## У ПОЛЬШЧЫ І ДОМА

З вялікай паездкі ў Польшчу вярнуўся Дзяржаўны ансамбль танца БССР. Калектыў выступаў на сцэнах Варшавы, Гданьска і іншых гарадоў. У Катавіцах прымаў удзел у свяце шахцёраў, якое ў гэты час там праходзіла.

Польскія гледачы з захапленнем глядзелі цудоўныя, тэмпераментныя беларускія танцы «Перапёлачка», «Янка», «Крыжачок», «Купальскія гульні», апладзіравалі рускім «Лапцям-самаскокам», украінскаму «Гапаку». Папулярнымі сталі ў Польшчы імёны салістаў ансамбля — заслужанай артысткі БССР Святланы Вуячыч, артыстаў Маі Канішчавай, Анатоля Дзябіна, Уладзіміра Кавалёва.

А наперадзе — паездкі па роднай рэспубліцы, справаздача перад сваім гледачом.

## *У САЮЗЕ МАСТАКОЎ БССР*

**20 снежня адбыўся пленум Саюза мастакоў БССР. На парадку дня пленума стаялі пытанні аб скліканні чарговага, дзевятага, з'езда Саюза мастакоў БССР і аб дзейнасці Мастацкага фонду БССР у 1968—1972 гадах.**

**Пленум вырашыў склікаць чарговы, дзевяты, з'езд Саюза мастакоў БССР 22—23 студзеня 1973 года.**

**Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад старшыні праўлення Мастацкага фонду БССР Л. Асецкага, пленум прыняў адпаведную пастанову.**

## *ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!*

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменніца Васілевіч Алена Сямёнаўна ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## УСЕСАЮЗНАЯ ВЫСТАЎКА «СССР—НАША РАДЗІМА»

**19 снежня ў Маскве адкрыта ўсесаюзная мастацкая выстаўка «СССР—наша Радзіма», прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР. Разам з майстрамі выяўленчага мастацтва ўсіх саюзных рэспублік краіны на выстаўцы паказалі свае творы жывапісцы і графікі Савецкай Беларусі.**

## У РЭДАКЦЫЮ ШТОТЫДНЁВІКА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*Выказваю шчырую ўдзячнасць арганізацыям і ўстановам, сябрам і ўсім чытачам, якія прыслалі цёплыя віншаванні з нагоды майго 70-гадовага юбілею.*

**Міхась МАШАРА.**

●

*Выказваю глыбокую і сардэчную падзяку ўсім тым, хто павіншаваў мяне з нагоды 60-годдзя і ўзнагароджаннем Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.*

**Павел КАВАЛЁЎ.**

●

*Глыбока і сардэчна ўдзячны ўсім установам, калектывам і сябрам, якія ўспомнілі пра мяне добрым словам з выпадку майго 60-годдзя і высокай урадавай узнагароды.*

**Юльян ПШЫРКОЎ.**

# ШЫРОКАЙ ДАРОГАЙ ЖЫЦЦЯ

**УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР**

**АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ЧАСОПІСА «ПОЛЫМЯ» ОРДЭНАМ «ЗНАК ПАШАНЫ»**

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і за актыўны ўдзел у камуністычным выхаванні працоўных узнагародзіць **часопіс «Полымя»** ордэнам **«Знак Пашаны».**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ПАДГОРНЫ.**
**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. ГЕАРГАДЗЕ.**
Масква, Крэмль. 18 снежня 1972 г.



Міхась Лынькоў адкрывае вечар, прысвечаны 50-годдзю часопіса «Полымя».
Фота Ул. КРУКА.

Літаратурна-мастацкаму і грамадска-палітычнаму часопісу «Полымя» — флагману беларускай літаратурнай перыёдыкі — 50 гадоў.

19 снежня грамадскасць Мінска адзначыла яго юбілей. Урачысты вечар адбыўся ў Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы, у рэпертуары якога нямала п'ес, што ўпершыню ўбачылі свет на старонках «Полымя». У тэатральнай зале сабраліся рабочыя мінскіх прадпрыемстваў, партыйныя і савецкія работнікі, дзеячы навукі і культуры, настаўнікі і ўрачы, студэнты і воіны Савецкай Арміі.

Прысутныя ў зале цёпла віншуюць супрацоўнікаў часопіса і яго аўтараў з узнагароджаннем «Полымя» ордэнам «Знак Пашаны» — сведчаннем прызнання партыяй і ўрадам яго заслуг перад народам.

У прэзідыуме ўрачыстага вечара — сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчыкі аддзелаў ЦК КПБ С. Я. Паўлаў і С. В. Марцалеў, першы сакратар ЦК ЛКСМБ У. І. Падрэз, сакратар Мінскага гаркома партыі Т. Ц. Дзмітрыева, народныя пісьменнікі рэспублікі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Іван Шамякін, госці з брацкіх рэспублік, прадстаўнікі грамадскасці.

Урачысты вечар кароткім уступным словам адкрывае адзін са старэйшых беларускіх літаратараў, які доўгі час узначальваў рэдкалегію «Полымя», народны пісьменнік БССР М. Ц. Лынькоў.

— Дарагія таварышы, дарагія госці! — гаворыць ён. — У гэтыя дні ўсе народы нашай вялікай сацыялістычнай Радзімы, народы сацыялістычных дзяржаў і перадавыя людзі нашай планеты ўрачыста адзначаюць слаўнае 50-годдзе ўтварэння Савецкага Саюза.

Некалі, у самым пачатку нашай рэвалюцыі, ворагі савецкіх народаў прарочылі непазбежную гібель, як гаварылі яны, «бальшавіцкаму эксперыменту». Вызначалі і тэрміны гэтай гібелі: праз дзень, праз два, ад сілы праз тыдзень. У далейшым гэтыя «тэрміны» расцягваліся на месяцы. Месяцы змяніліся гадамі. Аднак тое, чаго ворагі так прагна чакалі, не адбылося. Затое ўвесь свет убачыў іншае: наша рэвалюцыя, наша брацкая садружнасць народаў, уся наша сацыялістычная рэчаіснасць так вырaслі ў сваіх маштабах, у сваім значэнні, у сваім уплыве на ўсё міжнароднае жыццё, што прывялі да значных змен у палітычным і сацыяльным клімаце ўсёй планеты.

Адным з важных дасягненняў нашага народа, працягваў М. Ц. Лынькоў, з'яўляюцца стварэнне і росквіт савецкай мастацкай літаратуры — літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Мы сабраліся сёння, каб адзначыць пяцідзесяцігадовы юбілей літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Полымя», які шмат зрабіў для развіцця і росквіту беларускага мастацкага слова, па выяўленню і выхаванню маладых кадраў літаратуры, умацаванню пастаяннай сувязі мастакоў слова з жыццём народа, з яго кроўнымі інтарэсамі і запатрабаваннямі. Часопіс дапамагае партыі выхоўваць падрастаючыя пакаленні — нашых юнакоў і дзяўчат мужнымі і адданымі барацьбітамі за наша светлае заўтра, за камунізм.

Слова аб паўвекавым шляху, пройдзеным часопісам «Полымя», сказаў яго галоўны рэдактар паэт Кастусь Кірэенка.

— Небывалага росквіту дасягнулі ў брацкай сям'і ўсе савецкія рэспублікі, — адзначыў ён. — І, як роўная сярод роўных у сузор'і рэспублік свабодных, расцвіла, дасягнула шчаслівых вышынь наша Савецкая Беларусь.

Сёння, з вяршыні пражытых пяцідзесяці гадоў, ва ўсёй грандыёзнай славе і велічы бачна сусветна-гістарычнае значэнне ўтварэння Саюза ССР, якое з'явілася працягам і развіццём справы Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ленінская партыя дапамагала ўсім нацыям і народнасцям нашай краіны выйсці на шырокі прастор усебаковага грамадска-палітычнага, гаспадарчага і культурнага развіцця.

Нараджэнне беларускага часопіса «Полымя», працягвае К. Кірэенка, як і з'яўленне іншых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў у Савецкай краіне, было красамоўным і знамянальным фактам, які сведчыў аб бацькоўскіх клопатах Камуністычнай партыі аб развіцці ўсіх нацыянальных культур, аб самай пільнай увазе маладой Савецкай улады да станаўлення творчых сіл шматнацыянальнага савецкага грамадства.

Рэдакцыйная калегія «Полымя», які называўся тады часопісам «літаратуры, палітыкі, эканомікі і гісторыі», змясціла ў першым нумары сваю дэкларацыю. У ёй урачыста і цвёрда заяўлялася, што «Полымя» будзе рашуча выступаць супраць ворагаў Савецкай улады і іх наймітаў, будзе ўмацоўваць брацкае адзінства працоўных Беларусі з працоўнымі ўсёй Расіі.

Сёння ў нас ёсць усе падставы заявіць, гаворыць прамоўца, што на працягу ўсіх пяцідзесяці творчых гадоў «Полымя» няўхільна ажыццяўляла на практыцы прынцыпы партыйнасці, народнасці і інтэрнацыяналізму ў літаратуры.

З першых нумароў і па сённяшні дзень часопіс шмат увагі ўдзяляе прапагандзе ідэй марксізму-ленінізму. На старонках «Полымя» былі ўпершыню надрукаваны пераклады твораў У. І. Леніна на беларускую мову. У часопісе з'явіліся і першыя мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў, прысвечаныя правадыру народаў. Вернасць ленінскай тэме — адна з дарагіх традыцый часопіса.

Немагчыма пералічыць нават найбольш значныя творы нашай літаратуры, якія на працягу пяцідзесяці гадоў упершыню зрабілі крок да чытача са старонак часопіса, — раманы і аповесці, паэмы і вершы, апавяданні і п'есы, што палюбіліся чытачам у роднай Беларусі і за яе межамі — у брацкіх рэспубліках і за рубяжом. У «Полымі» былі ўпершыню надрукаваны, напрыклад, творы Петруся Броўкі і Івана Мележа, удастоеныя Ленінскай прэміі. Лаўрэатамі Дзяржаўных прэмій Савецкага Саюза сталі такія аўтары часопіса, як Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Іван Шамякін, Янка Брыль. Шэрагу твораў, якія друкаваліся ў гэтым часопісе, прысуджаны Дзяржаўныя прэміі БССР.

Савецкая літаратура заўсёды лічыла і лічыць сваім святым абавязкам умацоўваць жыватворную ленінскую дружбу народаў, іх непарушны брацкі саюз. Верна служаць гэтаму і старонкі «Полымя», якія выхоўваюць высокія пачуцці пралетарскага інтэрнацыяналізму, пачуцці адзінай савецкай сям'і.

Падрабязна спыняецца рэдактар «Полымя» на планах і задачах часопіса, якія вынікаюць для літаратараў з указанняў XXIV з'езда КПСС.

Нам, пісьменнікам, гаворыць дакладчык, трэба прысвяціць сваю працу і натхненне галоўнаму герою сучаснасці — слаўнаму рабочаму класу.

У выкананні пастаўленых партыяй перад літаратурай задач, працягвае рэдактар «Полымя», вялікая роля належыць літаратурнай крытыцы, літаратуразнаўству. У пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» перад творчымі саюзамі ставіцца задача штодзённа клапаціцца аб ідэйна-тэарэтычным і прафесіянальным узроўні літаратурна-мастацкай крытыкі, павышаць яе ролю ў вырашэнні задач камуністычнага будаўніцтва, у фарміраванні грамадскай думкі, у барацьбе з чужымі поглядамі і канцэпцыямі. З гэтых прынцыпова важных і своечасовых указанняў партыі вынікаюць вялікія задачы Саюза пісьменнікаў БССР і яго часопіса «Полымя». Не толькі адлюстроўваць сённяшні стан нашай літаратуры, але быць арганізатарамі творчасці пісьменнікаў — у гэтым мы бачым задачу рэдакцыйнага калектыву і рэдакцыйнай калегіі, — падкрэслівае дакладчык. У той жа час мы хочам, каб на старонках часопіса часцей выступалі прадстаўнікі самых шырокіх колаў нашай грамадскасці, у тым ліку наватары вытворчасці, знатныя прадстаўнікі рабочага класа і калгаснага сялянства рэспублікі.

Сёння часопіс ідзе да чытачоў узбагачаны паўвекавым творчым вопытам, — гаворыць у заключэнне Кастусь Кірэенка. — Рост пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі, пашырэнне і паглыбленне брацкіх сувязей з літаратурамі ўсіх рэспублік расшырылі кола яго аўтараў, узбагацілі новымі тэмамі і формамі мастацкага адлюстравання жыцця. Усё гэта дае падставы заявіць нашай грамадскасці, нашай роднай партыі, што часопіс «Полымя» будзе ў далейшым яшчэ больш актыўна і ўмела ўдзельнічаць у вялікім стваральным жыцці савецкага народа, служыць яму верай і праўдай.

Слова атрымлівае сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін. Ад імя ЦК КП Беларусі ён сардэчна павіншаваў рэдакцыйную калегію, калектыў работнікаў, шматлікі аўтарскі актыў часопіса «Полымя» з юбілеем і ўзнагароджаннем выдання ордэнам «Знак Пашаны».

Гарачыя віншаванні творчаму актыву, рэдакцыйнай калегіі і супрацоўнікам рэдакцыі «Полымя» выказаў ад імя Саюза пісьменнікаў БССР першы намеснік старшыні яго праўлення, народны пісьменнік рэспублікі І. П. Шамякін. У тым, што беларуская савецкая літаратура стала адным з перадавых атрадаў шматнацыянальнай савецкай літаратуры, што яна вырасла, умацавалася, узбагацілася пісьменніцкімі імёнамі, шырока вядомымі ўсёй краіне, значная заслуга належыць і нашаму юбіляру — часопісу «Полымя», сказаў ён.

Юбілей «Полымя» — гэта свята ўсёй грамадскасці рэспублікі, падкрэсліў прамоўца. Ён пажадаў часопісу яшчэ больш паспяхова ажыццяўляць свае вялікія планы і задумы.

На трыбуне — адказны сакратар, член рэдкалегіі часопіса «Дружба народов» Л. М. Шылаўцава. Яна перадае юбіляру гарачае віншаванне ад пісьменнікаў сталіцы нашай Радзімы, ад рэдкалегіі і супрацоўнікаў часопіса.

Л. М. Шылаўцава зачытвае прывітальны адрас часопіса «Дружба народов».

Слова атрымлівае член рэдкалегіі ўкраінскага часопіса «Вітчізна» пісьменнік М. Я. Алейнік.

— На працягу паўстагоддзя часопіс «Полымя», — гаворыць ён, — з'яўляецца сапраўдным люстэркам беларускай савецкай літаратуры.

М. Я. Алейнік зачытвае прывітальны адрас праўлення Саюза пісьменнікаў УССР часопісу «Полымя».

На трыбуне—пісьменнік Уладас Шымкус, загадчык аддзела літоўскага літаратурна-мастацкага часопіса «Пергале»:

— Усё лепшае, што надрукавана на старонках «Полымя», паслядоўна і поўна адлюстроўвае развіццё беларускай савецкай літаратуры ў брацкай сям'і літаратур народаў СССР.

Ад імя Міністэрства культуры БССР юбіляра цёпла вітаў намеснік міністра А. М. Ваніцкі. Ён падкрэсліў, што часопіс актыўна прапагандуе дасягненні беларускай савецкай культуры і мастацтва.

Часопіс-юбіляр сардэчна павіншаваў першы намеснік старшыні праўлення Саюза журналістаў БССР, рэдактар газеты «Звязда» М. І. Дзялец.

Ад імя калектываў іншых літаратурных выданняў рэспублікі юбіляра вітаў галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» паэт Генадзь Бураўкін.

Нямала сяброў у часопіса «Полымя». Цесныя вузы звязваюць яго з творчымі саюзамі, навуковымі арганізацыямі, ВНУ рэспублікі, з удзячнай арміяй чытачоў. Красамоўным таму пацвярджэннем з'явіліся прывітальныя прамовы, з якімі выступілі на ўрачыстым вечары член-карэспандэнт АН БССР, прафесар БДУ імя У. І. Леніна І. Я. Навуменка, бібліёграф бібліятэкі імя У. І. Леніна Н. Б. Ватацы, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю А. Ф. Барушка, член-карэспандэнт АН БССР, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР В. К. Бандарчык, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню М. А. Суша, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» А. П. Кудравец.

Вечар, прысвечаны 50-годдзю часопіса «Полымя», завяршыўся спектаклем «Раскіданае гняздо» па п'есе Янкі Купалы.

БЕЛТА

**ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!**

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і друку і ў сувязі з 50-годдзем з дня выхаду першага нумара часопіса «Полымя» ўзнагароджаны:

**ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛРУСКАЙ ССР**

Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч — рэдактар аддзела паэзіі, Кірэенка Канстанцін Ціханавіч — галоўны рэдактар часопіса, Пташнікаў Іван Мікалаевіч — рэдактар аддзела прозы, Сачанка Барыс Іванавіч — старшы літаратурны работнік аддзела прозы, Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч — рэдактар аддзела публіцыстыкі і нарыса, Шарахоўская Алена Іосіфаўна — літаратурны супрацоўнік, Шкраба Рыгор Васільевіч — рэдактар аддзела крытыкі і літаратуразнаўства.

**ГРАМАТАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР**

Андрэйчанка Валянціна Аляксандраўна — дыспетчар наборнага цэха друкарні выдавецтва ЦК КП Беларусі, Коган Берта Саламонаўна — карэктар, Кулакоўская Ніна Ульянаўна — старшы карэктар, Масарэнка Аляксандр Герасімавіч — адказны сакратар.



# ДВОЕ


Сафрон ДАНІЛАЎ

Якуція


**Т**УНДРА...

Вам здаралася быць у тундры?

Не? Як жа мне расказаць пра яе, каб вы яе адчулі, убачылі? Я мог бы, вядома, назваць яе прыгожай, велічнай, суровай. Бывае яна і страшная...

Тундра...

У ясны вясновы дзень неба над ёй светла-блакітнае, чыстае. Куды ні зірнеш — вакол снег, снег, снег. Белы, як лебядзінае крыло.

А на ўзыходзе велізарнага паўночнага сонца снег зіхаціць, як каштоўныя камені, пераліваецца — ізумрудны, ліловы, ружовы.

Пачынаецца дзень, і снег сінее, як неба.

Зімой, калі сонца няма, снег шэры, нібы дым, попельны.

Тундра...

Куды ні зірнеш — снег, снег, снег .. Едзеш на нарце дзень, едзеш два, дзесяць, дваццаць дзён, і няма ёй канца і краю. Едзеш сёння, як учора, вакол — снег, снег, снег...

Снег і неба, неба і снег.

Быццам нідзе не шуміць тайга, не свецяцца агні гарадоў, не сустракаюцца людзі.

Лятучы вецер, усходні вецер... Узнімаеш галаву—снег, снег, і над ім цяжкія хмары напаўзаюць адна на адну...

Тундра...

Вецер пачынаў пакрысе тармасіць, разварушваць снягі.

— Хэй! — крыкнуў на сваіх аленяў стары Байбаас.

Галаўны алень ірвануўся наперад. З-пад капыт у нарту паляцелі камякі снегу.

Вецер усё мацнеў. І вось закруціўся, завярцеўся снежны пыл.

Неба знікла.

А Байбаас спакойны, ён едзе і спявае сваю песню:

«Слухай, тундра. Гавораць, Байбаасу шэсцьдзесят год. Праўда, тундра, мне шэсцьдзесят год. Гавораць, Байбаас — стары. Не, я не стары, тундра».

Ён спявае і бачыць сход калгаснікаў, чуе, як прапануюць маладому Эрбэхтэю спаборнічаць з ім. А Эрбэхтэй нават рукой махнуў: як можна спаборнічаць са старым? Ой, як пакрыўдзіўся Байбаас! Але змоўчаў. Хвалько гэты Эрбэхтэй, але паляўнічы з яго выйдзе добры. А пакуль хай балбоча. Зусім малады хлопец. Старым назваў! Які ж Байбаас стары? Шэсцьдзесят год — гэта хіба для паляўнічага многа? Вось толькі ў пачатку зімы яму не пашанцавала. А яны думаюць, што Байбаас ужо не здабытчык. Ну што ж, няхай думаюць, Байбаас ім дакажа. Ты ж гэта ведаеш, тундра...

Неба не відаць, а Байбаас едзе, едзе і спявае.

Ужо ў нарце сем пясцоў — вялікія пясцы, харошыя. Умее ставіць Байбаас пасткі. Ты шумі, тундра, усю ноч шумі. А потым хопіць. Трэба Байбаасу іншыя пасткі паглядзець, а то ваўкі глядзець пасткі будуць — ад пясцоў толькі шматкі застануцца. Ваўкоў замнога стала, страляць іх трэба, а ў калгасе верталёта чакаюць, з верталёта страляць хочуць. Не ляціць верталёт. Раней і так ваўкоў білі, а цяпер сядзяць, склаўшы рукі. Маладыя, лянівыя.

Тундра шуміць.

Байбаас едзе і спявае:

«Хутка паляўнічая хацінка, цёпла будзе, чай будзе. Шумі, тундра, ноч шумі, а потым хопіць. Аленяў шкада. Трое сутак не елі ўволю. Каля хацінкі які быў мох —усё паелі, а далёка адпускаць нельга — ваўкі».

Байбаас не правіць, не панукае аленяў. Галаўны сам ведае, куды ехаць, сам выбірае. А вось другі алень зусім стаміўся.

Шуміць тундра...

Раптам алені шарахнуліся ўбок. Байбаас ледзь не зваліўся з нарты. Чаго яны спалохаліся? Ваўкоў чуюць? Наперадзе нешта чарнела. Што гэта? Раней тут нічога не было. Не, не воўк. Галодны мядзведзь з тайгі выйшаў ці алень заблудзіўся?

Байбаас спыніў аленяў, узяў карабін. Гэ! Ды гэта ж хацінка. Комін тырчыць. Дзіўна. Хто мог пабудаваць? Месца благое, на самым ветры. Байбаас пад'ехаў яшчэ бліжэй. Не, гэта не хацінка. Трактар! Адкуль? Навошта ён тут? Байбаас прыўзняў шапку, прыслухаўся: не гудзе, матор не працуе. Ён аб'ехаў трактар; прыўзняўся, зазірнуў у кабіну. Нікога няма. У санях — бярвенне. Гаварылі, што рыбзавод будуе дамы для рыбакоў у Кумахтааху, каля мора. Значыцца, гэтае бярвенне туды везлі. А дзе ж чалавек? Куды ён мог пайсці пешшу? А гэта што? Байбаас нагнуўся, ўзяў у рукі абгарэлую анучу. Відаць, целагрэйка згарэла.

Байбаас улез у кабіну. Там пахла гарам. Байбаас хутка саскочыў. Бяда! Пажар быў! Дзе ж трактарыст? Байбаас пачаў шукаць сляды. Трактар яшчэ цёплы, чалавек далёка не пайшоў. Вось след, вось...

Байбаас, ведучы за сабой аленяў павольна ішоў па следу. А вось тут чалавек падаў. Зноў пайшоў. А вось на каленях поўз. «Ды што з ім?! Што з ім такое?»

Байбаас ужо бег па следу і ледзьве не наткнуўся на чалавека, зарытага ў снег.

Байбаас прыўзняў чалавека і спалохаўся: твар у яго быў у пухірах ад апёкаў. Вочы былі заплюшчаны, але чалавек дыхаў.

— Друг! — крыкнуў Байбаас. — Чуеш мяне?

Чалавек расплюшчыў вочы: веек не было...

— Друг, як жа ты трапіў у такую бяду?

Байбаас сарваў з плеч чалавека цяжкую прамасленую анучу (гэта была абгарэлая ватная пакрыўка на капот), зняў з сябе шапку, скінуў кухлянку. Пачаў апранаць чалавека, як дзіця.

Апрануў, падняў покрыўку, паслаў яе на нарту і ўклаў трактарыста. Сам застаўся ў футравай камізэльцы. Галаву павязаў даўгім тоўстым шалікам. «Ратаваць трэба... Нядобры ты, трактар. Так абпаліць чалавека...»

Была ноч, калі малады трактарыст Міхась Каліноўскі скіраваўся ў дарогу.

Снег. Зоркі.

Збоку магло здацца, што трактар не сам ідзе, што нехта цягне яго, ухапіўшыся за промені фар, як за два дрыготкія тросы.

У Кумахтаах, дзе цяпер будавалі дамы для рыбакоў, Міхась вазіў лес ужо двойчы. Яму здавалася, што да тундры ён прывык, і ніколькі не шкадаваў, што год назад пасля дэмабілізацыі прыехаў сюды. Ён нарадзіўся на Беларусі, у вёсцы, а служыў на Далёкім Усходзе. Быў у іх часці якут Сямён Пятроў. Харошы хлопец. Ён гаварыў, што прыгажэй за тундру нічога няма. Вось Міхась і паехаў паглядзець. Паехаў, ды і застаўся. Спадабалася яму тут. І заробак добры— Міхась памагаў сваім старым, ды і сястры пасылаў ледзь не кожны месяц.

Матор працаваў роўна, у кабіне было цёпла. Міхась напяваў нейкую вясёлую песеньку. Ён быў малады. Яму хацелася спяваць. І ён спяваў.

Адзін сярод бясконцай снежнай роўнядзі. Так мінула ноч.

Міхась бачыў, як неба святлела, рабілася ўсё шырэйшым. І вось на ўсходзе следам за чырвоным зззяннем зары ўзнікла велізарнае халоднае сонца Поўначы. Міхась зноў убачыў жывыя снягі, сляпучую шыр тундры.

Міхась адчыніў дзверцы кабіны і, высунуўшы галаву, крыкнуў:

— О-о, го-го-го-го-оо!

І яго голас паляцеў далёка ў тундру.

Сонца ўжо схілілася. За плячыма засталася палова шляху. І тут Міхась убачыў воблакі. «Можа, будзе пурга?» Міхась да гэтага часу не трапляў у пургу. Але баяцца яму няма чаго: гэтага стальнога аленя, бадай, ніякая пурга не адолее, а калі нічога не будзе відаць, па компасу можна даехаць.

А пурга і сапраўды пачыналася. Міхась прыслухоўваўся да голасу матора і раптам устрывожыўся. Ён дадаў газу, але трактар ішоў з той жа хуткасцю. Няўжо рухавік перагрэўся? Раней гэтага не здаралася...

Міхась спыніў трактар, адкрыў капот. Сістэма сілкавання ў парадку, з маслам усё нармальна... Ён пачаў было асцярожна адшрубоўваць накрыўку радыятара — пара вырвалася са свістам. Міхась зазірнуў у радыятар: вада булькала толькі на дне. Куды ж яна дзелася? А, вунь яно што: цячэ... Унізе капае. Так, кепскія справы. Паўгадзіны давядзецца страціць, але паправіць можна.

Ён дастаў скрынку з інструментам і ўзяўся запайваць расколіну на радыятары. Працаваць было цяжка — вецер перашкаджаў. Нарэшце запаяў. Паглядзеў на гадзіннік: ну і ну! — цэлую гадзіну важдаўся. Міхась залез на гусеніцу і пачаў заводзіць матор. Не атрымліваецца! Застыў матор! Што ты зробіш! Міхась зрабіў факел з паклі, пачаў разаграваць картэр. Тут і здарылася непапраўнае. Моцны парыў ветру ўздзьмуў полымя, і яно ахапіла прамочаную маслам ватную покрыўку на капоце. Яна ўспыхнула. Міхась разгубіўся. А даўгія языкі полымя праз расчыненыя дзверы ўжо цягнуліся ў кабіну. Загарэлася сядзенне. Міхась змахнуў ватную покрыўку ў снег, скінуў целагрэйку, ускочыў у кабіну. Целагрэйкай ён пачаў збіваць полымя, але і яна загарэлася. Ён выкінуў яе з кабіны і стаў голымі рукамі абдзіраць сядзенне. Пякло твар, рукі. Міхась ужо нічога не бачыў. Але ён ведаў што робіць. Сядзенне паляцела ў снег.

«Усё-такі ўдалося збіць полымя. Але рукі, рукі ў пухірах... Як жа я такімі рукамі трактар завяду?».

На снезе дымілася ватная покрыўка. Целагрэйка амаль уся згарэла.

У яго яшчэ хапіла сілы ўзяцца за рычагі. Матор зноў не заводзіўся. «Не, такімі рукамі нічога не зробіш. Як жа быць? Да Кумахтааха кіламетраў сорак. Не дайсці. Пурга пачынаецца. Аставацца нельга. Замерзну. Трэба ісці на ўсход, да паляўнічай хацінкі». Міхась накінуў на плечы покрыўку, шапку не знайшоў. Добра, што хоць компас не згубіўся.

Міхась пабрыў на ўсход

Тундра.

Лятучы вечар, усходні вецер... снег, снег, а над галавой — цяжкія хмары, якія напаўзаюць адна на адну.

Тундра...

Вось і спазнаў цябе Міхась.

Ён ідзе з апошніх сіл, налягае на вецер грудзьмі. Гудзе вецер. Вакол снег, снег.

Міхась упаў і не адразу падняўся.

Гудзе вецер. Міхась ішоў і падаў, падаў і ішоў, і, нарэшце, лежачы на снезе, зразумеў, што падняцца ён ужо не зможа. Снег быў мяккі і нават цёплы. Хацелася заснуць. Вочы самі заплюшчваліся, — заснуць...

«Прападу, — думаў Міхась. — Трэба ісці».

Але ісці ён не мог і цяпер поўз, заграбаючы рукамі снег, задыхаючыся.

Ён падцягваўся на лакцях, прыціскаючыся да снегу гарачым ілбом.

Тундра...

Так мог загінуць чалавек. Адзін.

Але тундра — гэта двое.

Стары Байбаас, трымаючы ў правай руцэ лейцы, бег побач з нартай, паганяючы аленяў.

На нарце ляжаў Міхась.

Вецер усё мацнеў, снегавыя віхуры налятал з усіх бакоў, паперадзе мільгалі толькі спіны аленяў.

Байбаас пагнаў аленяў і ўбачыў, што нарту вязе адзін галаўны алень, а другі зусім абяссілеў, не цягне нарту.

Шкада Байбаасу, вельмі шкада пакідаць у тундры сваю здабычу, але што рабіць? Давялося закапаць у снег пясцоў, хоць гэтым аблегчыць нарту. Больш ён сваіх пясцоў не ўбачыць: пачуюць іх па паху ваўкі і сажруць. Нічога не зробіш.

Потым пачаў здаваць і галаўны алень. Байбаас, як мог, памагаў яму: штурхаў нарту ззаду.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

У будучым годзе грамадскасць будзе адзначаць 150-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага драматурга А. М. Астроўскага. Гэтай даце Брэсцкі абласны драматычны тэатр прысвяціў новую работу — спектакль «На бойкім месцы» (рэжысёр М. Кавальчык, мастак Ю. Тур).



На здымку — сцэна са спектакля.

Фота П. ЛАЎРУСІКА.

Ул. РАЗУМНЕВІЧ

# СІНЯВОКІ КРАЙ БЕЛАРУСКІ...

У ДЗЯЦІНСТВЕ, памятаю, бацька часта расказваў мне, як яшчэ ў першую сусветную вайну, ён, дванаццацігадовы падлетак, разам з бацькамі эвакуіраваўся, ратуючыся ад германскіх захопнікаў, у глыб Расіі з роднага беларускага сяла. І больш туды ніколі не вярнуўся, так ужо склалася жыццё.

Але вёску свайго дзяцінства ён успамінаў часта і Беларусь заўжды называў пяшчотна — «сінявокі край мой родны». Аднойчы бацька растлумачыў, чаму ён так гаворыць: яго радзіма багата азёрамі, яснымі і глыбокімі, якія адлюстроўваюць сіняву неба, і яны ў сонечны дзень становяцца падобнымі на велізарнае вока зямное.

У касавіцу, вяртаючыся позняй ноччу ў сяло, бацька часам зацягваў песню — сумную, цягучую, якая пранікала ў душу, адгукалася болем. Я неяк спытаўся ў яго:

— Чаму твае песні такія сумныя?

І ён адказаў:

— Таму, сынок, што іншых песень у нашай сям'і не спявалі. Дрэнна жылося нам да рэвалюцыі ў Беларусі. З дзесяці год у пана ў парабках спіну гнуў. На яго ж, багацея, працавалі, аддаючы апошнія сілы, і бацькі мае, і брат, і сястра. Якая ж тут весялосць! Вось і песні ў памяці ўцалелі толькі бязрадасныя...

У верасні 1939 года мы з бацькам, хвалюючыся, слухалі па радыё перадачы аб тым, што Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь уз'ядналіся з Савецкай Украінай і Савецкай Беларуссю.

Радасці бацькі не было краю, калі ён пачуў, што і яго роднае сяло ўвайшло ў склад Савецкай Беларусі.

— Ну вось, — сказаў ён, — цяпер і там зазвіняць вясёлыя песні.

Напісаў ліст землякам і неўзабаве атрымаў такі ж вялікі адказ — адгукнуліся сваякі, якіх ён не бачыў дваццаць пяць год. Яны запрасілі бацьку ў госці, той сабраўся ў далёкую дарогу, калі раптам радыё прынесла страшэнную вестку аб нападзе фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз. І бацька стаў салдатам. Ідучы на фронт, ён сказаў мне, што марыць пераможцам увайсці ў родную беларускую хату, ачысціць савецкую зямлю ад ворагаў. Ён абараняў Маскву і змагаўся за Ржэў. Там, каля маленькай ржэўскай вёсачкі, загінуў са зброяй у руках, так і не ажыццявіўшы сваю запаветную мару. Але яе выканалі таварышы бацькі.

...Народ свята захоўвае ў сваёй памяці бяспрыкладны подзвіг Савецкага салдата, які адстаяў шчасце Беларусі, шчасце ўсіх братніх народаў СССР.

У людскіх сэрцах ніколі не згасне ўдзячнасць да тых, хто 3 ліпеня 1944 года прынёс вызваленне сталіцы Беларусі — Мінску. У гэты дзень Масква салютавала пераможцам. А цяпер на шырокай плошчы беларускага горада стаіць высокі помнік і гарыць Вечны агонь у славу тых, хто, не шкадуючы свайго жыцця, змагаўся за нашу Савецкую Радзіму.

Да помніка з вянкамі кветак па традыцыі прыходзяць маладыя. Перад тым як пачаць сваё сямейнае жыццё, яны клянуцца ў вернасці Савецкаму салдату, які адстаяў шчасце на зямлі.

Вось аб усім гэтым — аб бацьку, аб яго расказах і песнях, аб яго нялёгкім лёсе — я бясконца думаў, калі гасціў у яго землякоў у Беларусі. Паехаў я туды з групай пісьменнікаў-масквічоў на Тыдзень літаратур народаў СССР. Хлебамсоллю сустракалі нас жыхары гарадоў і сёл, з гонарам расказвалі аб сваіх дасягненнях у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, навуцы і культуры, вадзілі нас па цэхах буйнейшых заводаў, па шумных аўдыторых інстытутаў, запрашалі на канцэрты майстроў мастацтва і аматарскіх калектываў. Колькі жыццярадасных, сонечных беларускіх песень пачулі мы за час нашага падарожжа па рэспубліцы! Як шкада, што не чуў гэтых песень бацька. Новае жыццё нарадзіла іх...

У адзін з нядзельных дзён пісьменнікі розных нацыянальнасцей сабраліся на шырокай лясной паляне на беразе ціхага Нёмана. Сюды ж, на радзіму праслаўленага паэта Якуба Коласа — Мікалаеўшчыну, з'язджаліся з песнямі жыхары навакольных вёсак. Церушыў дождж, збіваючы з дрэў пажаўцелае лісце. Але ніхто не хацеў пакідаць гэтую своеасаблівую канцэртную пляцоўку пад адкрытым небам. На розных мовах гучалі вершы, якія славілі Савецкую Беларусь і яе працавіты, таленавіты народ.

— Мы захаваем у сэрцы любоў да беларускай зямлі, яе людзей, лясоў, заводаў, палёў, якія так па-братэрску сустракалі нас, — сказаў, выступаючы на гэтай сустрэчы, пісьменнік Віталій Закруткін. — Няхай жа квітнее, загартаваная ў працы і ў баях, змацаваная крывёю абаронцаў Радзімы бессмяротная дружба нашых народаў!

Так, сустрэчы з рабочымі і сялянамі Беларусі яшчэ раз пераканалі кожнага з нас, як дарагі народу лёс літаратуры, як цэніць і любіць ён паэтычную і мудрую, па-партыйнаму страсную і сумленную кнігу.

Запомніліся шматлюдныя літаратурныя вечары ў Мінску, Віцебску, Полацку. У самым маладым горадзе рэспублікі Наваполацку, які цяпер знаходзіцца ў «піянерскім узросце» ,— яму усяго толькі чатырнаццаць год, — мы гутарылі ў гаркоме партыі. Нам падрабязна расказалі аб сапраўдным і будучым гэтага дзіўнага горада — горада вялікай хіміі, горада непарушнай працоўнай згуртаванасці рабочых розных нацыянальнасцей. Прадстаўнікі звыш сарака нацый і народнасцей нашай краіны жывуць і працуюць тут — на хімічным камбінаце, на будаўніцтве новых цэхаў і новых жылых дамоў, школ, дзіцячых садоў.

Дырэктар камбіната вадзіў пісьменнікаў па цэхах, дзе выпрацоўваецца каштоўная хімічная прадукцыя, і называў імёны лепшых — беларуса Уладзіміра Барысевіча, рускага Дзмітрыя Піскунова, башкіра Рашата Альмухамедава, армяніна Валерыя Аванесава і многіх іншых пасланцоў братніх рэспублік, якія прыехалі на камбінат вялікай хіміі.

На будаўніцтва новага заводскага комплексу абсталяванне паступае з Таліна і Хабараўска, Волгаграда і Благавешчанска, Новачаркаска і многіх іншых гарадоў, а нафтапрадукты, галоўным чынам выдатны поліэтылен, камбінат адпраўляе ў Літву, Узбекістан, на Украіну, у Малдавію, Латвію, у многія гарады РСФСР. Павышаныя абавязацельствы, якія ўзяў на сябе ў гонар 50-годдзя ўтварэння СССР калектыў камбіната, перавыконваюцца з месяца ў месяц.

Сустрэліся мы і з працаўнікамі сельскай гаспадаркі. Цудоўныя справы здзяйсняюць хлебаробы! Рэспубліка сёлетняй восенню прадала дзяржаве збожжа амаль у паўтара разы больш, чым у мінулым годзе.

...Вось такую я ўбачыў сёння Беларусь — сінявокі край бацькоўскага дзяцінства, край дужых, мужных і добрых людзей.

# Уладзімір АКУЛІЧ



Беларуская кінематаграфія панесла цяжкую страту.

На 68-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, адзін са старэйшых кінааператараў кінастудыі «Беларусьфільм» Уладзімір Лявонцьевіч Акуліч.

Ул. Л. Акуліч нарадзіўся ў 1904 годзе ў беларускай сялянскай сям'і. Сваю працоўную дзейнасць пачаў з 1920 года рабочым-чыгуначнікам, з'яўляўся ўдзельнікам грамадзянскай вайны.

Набыўшы ў 1928 годзе адукацыю кінааператара, Ул. Л. Акуліч працаваў на Кіеўскай кінастудыі імя Даўжэнкі, удзельнічаў у вытворчасці кінафільмаў «Багатая нявеста», «Трое з адной вуліцы», «Пяты акіян» і іншых.

З 1946 года і да канца свайго жыцця Ул. Л. Акуліч працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм». Як кінааператар-пастаноўшчык ён здымаў кінастужкі «Палеская легенда», «Пасеялі дзяўчаты лён», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Вясновыя навальніцы», «Чалавек не здаецца», «Дзесятая частка шляху» і інш. Усюды, дзе працаваў Уладзімір Лявонцьевіч, яго ведалі як таленавітага кінааператара, прынцыповага, чулага і сардэчнага таварыша.

Творчая праца Ул. Л. Акуліча была адзначана ўрадавай узнагародай, яму было прысуджана ганаровае званне Заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

Памяць аб Уладзіміру Лявонцьевічу Акулічу назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Група сяброў.**

Калі галаўны алень пачаў хістацца ад ветру, а Байбаас ужо зусім задыхаўся, паказалася, нарэшце, паляўнічая хацінка. Цяпер сагрэць трэба чалавека...

Байбаас знайшоў у хацінцы ўсё неабходнае: дровы для печы, масла, рыбу, мяса, посуд — каб згатаваць ежу, аленевую шкуру — каб было на чым адпачыць. Усё гэта на выпадак бяды — па звычаю тундры.

Паклаўшы трактарыста на аленевую шкуру, Байбаас запаліў у жалезнай пячурцы і набіў чайнік снегам.

Пячурка хутка раскалілася да чырвані, у хацінцы стала цёпла. Байбаас паставіў гатавацца мяса і падсеў да трактарыста, які не расплюшчваў вачэй, толькі зрэдку ціха-ціха стагнаў.

У святле свечкі Байбаас убачыў, што ён зусім малады. Байбаас не памятаў такога трактарыста на рыбзаводзе, — відаць, новы, прыехаў нядаўна.

Байбаас пачаў паіць хворага з лыжкі. Павекі ў яго задрыжалі, ён расплюшчыў вочы. Байбаас узрадаваўся, прашаптаў яму на вуха:

— Сынок, як ты сябе адчуваеш?

Той нічога не адказаў. З парэпаных яго вуснаў сачылася кроў. Байбаас успомніў, як лячылі раней апёкі мядзведжым лоем. Але зараз яго нідзе не дастанеш, а потым мядзведжы лой не паможа: апёкі вельмі вялікія. У пасёлак везці трэба, у бальніцу. «Як жа я паеду заўтра? Алені зноў галодныя, — так думаў Байбаас, прыслухоўваючыся да тундры. — Дзе цяпер бацькі гэтага хлапца? Яны, напэўна, не ведаюць, што іх сын трапіў у бяду».

Раптам хворы паварушыўся.

Байбаас прыклаў вуха да яго вуснаў.

— Дзе... я?..

— У тундры. Не бойся, — адказаў Байбаас па-якуцку. І, спахапіўшыся, сказаў па-руску — Я охотньук... Тундра, юрта...

— Піць...

Байбаас напаіў яго чаем са шклянкі.

— Можа б, паеў? Мяса... Мяса... Кіліэп... Балык... Рыба...

Хлопец не адказаў.

— Як імя?

— Мі-хась...

— Мэхээс?—здзіўлена ўсклікнуў Байбаас. — Мэхээс, так?

Хлопец кіўнуў.

— Мэхээс! У цябе якуцкае імя. Майго бацьку таксама звалі Мэхээсам. А адкуль ты?

— Беларус... Бела...рус...

— Так, так, цяпер зразумела. Значыцца, беларус... На вайне быў мой брат, вось там і ваяваў. Мэхээс, я сын Мэхээса, а ты таксама Мэхээс!—мармытаў радасна Байбаас.—Будзеш есці, Мэхээс? Ты б паеў, падсілкаваўся.

Міхась заплюшчыў вочы. Байбаас выйшаў за дзверы, набраў у анучу снегу, прыклаў да ілба Міхася.

— Мэхээс, не бойся. Вось хутка прыціхне вецер, паедзем. У нас ёсць добры лекар, вельмі харошы чалавек. Нават мёртвага вылечыць.—мармытаў Байбаас.—Не бойся, хлопча... Ён цябе вылечыць... Чуеш, Мэхээс?

Байбаас усё падкладваў у печ дровы, кіпяціў чай.

«Тундра, не трэба шумець. Чалавек зусім хворы. Тундра, ты чуеш мяне?»

Пасля паўночы вецер пачаў сціхаць. Байбаас вырашыў ехаць, не чакаючы поўнага зацішку.

Алені Байбааса за ноч зусім не адпачылі. Другі алень нават не ўстаў, калі Байбаас выйшаў з хацінкі. Што ж, давядзецца яго тут пакінуць.

Байбаас амаль сілком пакарміў хворага супам і сам паеў уволю.

Рэшткі згатаванага мяса і іншую ежу паклаў на паліцу. Наліў булён у бутэльку, сунуў яе за пазуху: прыдасца ў дарозе. Адрэзаў ад бохана палавіну, аддаў аленям.

Запрог галаўнога.

Аказваецца, тундра толькі прыціхла і цяпер зноў бушавала. Усё было гэтак жа, як учора: алень цягнуў нарту, а Байбаас штурхаў яе ззаду.

«Яшчэ кіламетраў сорак. Да вечара даедзем», —думаў Байбаас.

Калі да пасёлка заставалася кіламетраў пяць, алень параніў левую пярэднюю нагу, з раны пацякла кроў. Алень вінавата паглядзеў на свайго гаспадара. Галаўнога ніколі не трэба было панукаць... Калі спыніўся, значыцца, усё. Байбаас выслабаніў яго з пастромак і сам павёз нарту, налягаючы на лямку. Цяжка. Вельмі цяжка.

Алень ішоў за нартай, але ўсё болей адставаў. «Нічога, добры алень не прападзе, сам вернецца дадому. Нічога».

— Нічога, нічога,—паўтараў Байбаас і ішоў, ішоў, ішоў.

Тундра...

Снег, снег, снег. Снег у твар.

«Няпраўду кажуць, што Байбаас стары. Дайду».

Увечары ў двор бальніцы ўвайшоў, хістаючыся, аблеплены снегам чалавек. Ён цягнуў за сабой нарту. Вакол з галасным брэхам гойсалі пасялковыя сабакі.

На шум выйшаў урач.

Наткнуўшыся, як сляпы, на ганак, чалавек паказаў яму на нарту, сказаў ледзь чутна:

— Выратуйце яго!..—і ўпаў.

Урач замітусіўся—каго несці першага: таго, хто на нарце, ці гэтага, на снезе.

Тундра—гэта двое.

Пераклаў А. МАЖЭЙКА.

# ЧАС І ЛЮДЗІ

## ПРА ЖАНР ПАРТРЭТА Ў СКУЛЬПТУРЫ

ПАРТРЭТ... Яшчэ Крамской назваў гэты жанр выяўленчага мастацтва «самай кампактнай формай паказу сучаснасці ў асобе яе канкрэтных прадстаўнікоў».

Глыбокае разуменне ідэй сучаснасці немагчыма без пастаяннага пошуку, без уліку змен, якія адбываюцца ў навакольным жыцці. Шматгранны вобраз героя нашага часу патрабуе карпатлівага і паслядоўнага вывучэння і разумення яго ўнутранага свету, характару, тых рысаў, якія дазваляюць гаварыць пра яго, як пра новага чалавека новага грамадства. Можа, менавіта таму беларускія скульптары часцей звяртаюцца да партэрэта, як да самастойнага жанру, ставячы яго разам з мануменальнай пластыкай і станковай кампазіцыяй. Сёння скульптары аднадушна абвяргаюць памылковы погляд на партрэт, як на «прамежны» жанр у скульптуры, як на своеасаблівую «аддушыну» паміж двума «сур'ёзнымі» творамі. Больш таго, у творчасці некаторых скульптараў малодшага пакалення партрэт стаў вядучым (калі не асноўным) жанрам, у якім мастакам удаецца рэалізаваць свае ўяўленні пра наш складаны і цікавы час.

Найбольш цікавыя ў распрацоўцы вобраза сучасніка, бадай, пошукі скульптараў сярэдняга і малодшага пакалення, такіх, як А. Анікейчык, Л. Гумілеўскі, Г. Мурамцаў, С. Вакар, В. Палійчук, А. Заспіцкі, І. Міско.

Г. Мурамцаў больш здатны да аналізу верагодных, уласцівых канкрэтнаму чалавеку рысаў характару. Кожны з яго партрэтаў — вынік глыбокага даследавання сапраўднай сутнасці мадэлі. Героі Мурамцава жывуць складаным духоўным жыццём не «ардынарных» людзей, а надзеленых яркімі індывідуальнымі рысамі і ўласцівасцямі, якія ўспрымаюцца ў той жа час як тыповыя рысы нашага сучасніка. «Партрэт беларускага кампазітара І. Лучанка», «Суддзя міжнароднай катэгорыі Б. Шчарбакоў» — у кожным з іх скульптар распрацоўвае зусім розныя грані вобраза, і ў той жа час у іх прысутнічае тая «характэрнасць», якая вызначае чалавека сённяшняга дня.

Пошукі кампазіцыйнай выразнасці, якія вядзе скульптар Л. Гумілеўскі ў радзе апошніх работ, знаходзяць паслядоўнае ўвасабленне і ў партрэтным жанры. У яго «Партрэце актрысы А. Бендавай» прыцягвае кампазіцыйнае рашэнне эмацыянальна-складанага вобраза.

Аднак, на мой погляд, партрэтная творчасць гэтага мастака — толькі «перакідны мост» ад канкрэтных вобразаў да больш глыбокіх і складаных пошукаў у станковай кампазіцыі. Праблема суадносін фігур у прасторы, узаемазалежнасць скульптурных аб'ёмаў, пластычная «сумяшчальнасць» звязаных лагічна, але расчлянёных у прасторы фігур — усё гэта знаходзіць у творчасці Л. Гумілеўскага даволі пераканаўчае пацвярджэнне ва ўжо створаных ім кампазіцыях — «Партызаны» (трыпціх), «Партызанская сям'я» і інш.

Больш падрабязнага разбору, на мой погляд, заслугоўвае партрэтная творчасць С. Вакара, скульптара, які шмат і сур'ёзна працаваў пераважна ў жанры партрэта.



П. БЕЛАВУСАЎ. У. І. Ленін.



С. ВАКАР. Партрэт героя грамадзянскай вайны Г. Гая.



А. ЗАСПІЦКІ. Партрэт Ф. Э. Дзяржынскага (фрагмент).

«Партрэт А. Мядзведзя» — адна з апошніх работ С. Вакара, у якой скульптар пасля даволі ўдалых работ у гістарычным плане вяртаецца да вобраза сучасніка.

С. Вакар адмаўляецца ад «спакуслівых» знешніх элементаў характарыстыкі спартсмена. У кампазіцыі партрэта ён наўмысна пакідае толькі галаву мадэлі, рэзка «адсякаючы» магутныя грудзі і плечы, падкрэсліваючы тым самым іх другараднасць у характарыстыцы вобраза.

Наогул С. Вакар, як партрэтыст, у апошнія гады дэманструе даволі стабільнае прафесіянальнае майстэрства. Упэўнена і паспяхова рэалізуе ў вобразах сучаснікаў і ў гістарычных партрэтах лепшыя дасягненні беларускай партрэтнай пластыкі. Прыемна адзначыць, што гэты мастак адносіцца да ліку тых патрабавальных да сябе скульптараў, якія рэдка паказваюць свае творы ў гіпсе, справядліва лічачы, што твор скульптуры павінен быць даведзены да завяршэння ў матэрыяле.

Асабліва прыкметныя поспехі С. Вакара ў асваенні такога прыгожага і разнастайнага ў сваіх магчымасцях матэрыялу, як дрэва. У апошніх работах — «Партрэце Пімена Панчанкі», «Партрэце У. Караткевіча», «Партрэце Бацькі Міная» — гэта асабліва прыкметна.

Цікавыя, на мой погляд, і пошукі ў скульптурным партрэце мастака У. Хмызнікава.

Асаблівасці яго пластычнага стылю найбольш паспяхова ўвасоблены ў «Партрэце К. П. Арлоўскага».

У гэтай рабоце скульптар імкнецца расказаць пра лёс чалавека, на долю якога выпала шмат цяжкіх выпрабаванняў. Тут, мне здаецца, і трэба шукаць ключ да ўспрыняцця вобраза Арлоўскага. Партрэт уяўляе сабой паўфігуру з умоўна намечанымі формамі рук і элементаў адзення. Скульптар лепіць завершаныя, некалькі залішне згладжаныя формы галавы і твару Арлоўскага—яны ўспрымаюцца як пластычны акцэнт, як псіхалагічны вузел, які ўтрымлівае ўвагу гледача.

Мяркуючы па некалькіх работах партрэтнага жанру, паказаных на апошніх выстаўках скульптарам І. Міско, іх аўтар распачынае энергічныя пошукі новага, не ўласцівага яму раней падыходу да партрэтуемага. Развітаўшыся з раннімі вопытамі, звязанымі з вытворчай тэматыкай, перахварэўшы «лірычны перыяд», І. Міско ў сучасны момант не толькі «памяняў» свайго героя, але і прыкметна актывізаваў пошукі новых пластычных сродкаў для яго характарыстыкі. Уласцівая яму раней мяккая мадэліроўка скульптурных аб'ёмаў, разлічаная на спакойную ігру святла і ценю, змянілася рэзкай, кантраснай лепкай, наўмысным агрубленнем форм.

Да вырашаных у плане «характарнага партрэта» можна аднесці, на маю думку, партрэт В. К. Бялыніцкага-Бірулі, створаны З. Азгурам.

Своеасаблівы твар славутага майстра вылеплены з усімі падрабязнасцямі добра знаёмага скульптару аб'екта. З. Азгур заклапочаны дакладнай перадачай своеасаблівых рысаў твару партрэтуемага, шчыра паглынёны багаццем форм твару старога мастака. Ён падрабязна ўзнаўляе сістэму маршчын, з цікавасцю прасочвае выгіб броваў, форму павекаў, па-майстэрску лепіць вялікія, характэрна выгнутыя вусны, арыгінальную бародку Бялыніцкага-Бірулі. Скульптар нібы імкнецца зрокава ўвасобіць у абліччы гэтага чалавека выказаную ім аднойчы думку: «твар чалавека — гэта яго біяграфія». Падрабязна даследуючы яго, скульптар не ўпускае з віду ніводнай колькі-небудзь характэрнай рысачкі, пашыраючы і ўзбагачаючы, такім чынам, «інфармацыю» пра партрэтыруемага. Як партрэтыст, З. Азгур прыхільнік доўгага ўсебаковага вывучэння натуры, у аснове якога заўсёды —непасрэдныя назіранні і асабістыя кантакты з мадэллю.

Можа, менавіта таму многія партрэты сучаснікаў, вылепленыя З. Азгурам, здзіўляюць гледача не толькі вялікім падабенствам, але і нейкай павышанай цікавасцю скульптара да індывідуальных асаблівасцей натуры, імкненнем як мага больш «расказаць» пра яе.

Мастацкае ўвасабленне вобразаў гістарычных асоб дае мастаку вялікія магчымасці для выказвання светапогляду і ідэалаў свайго часу. Натуральна, што ў любым такім творы важна не толькі знешняя, больш або менш дакладная характарыстыка гістарычнай асобы, але і ацэнка яе гістарычнай ролі. Сам аб'ект не выпадкова выбіраецца мастаком. Ён павінен несці ў сабе вядомую долю абагульнення пэўных бакоў той эпохі, яе перадавых прагрэсіўных традыцый.

Найбольш пераканаўчае ў гэтым сэнсе рашэнне — работа П. Белавусава «У. І. Ленін». Гэты партрэт не толькі вялікая творчая ўдача самога скульптара, але і, на мой погляд, адзін з досыць значных твораў ва ўсёй беларускай партрэтнай пластыцы апошніх гадоў.

У работах беларускія скульптары-партрэтысты ў апошнія гады даволі часта звяртаюцца да адлюстравання рамантыкі рэвалюцыйных гадоў, героікі барацьбы з фашысцкімі захопнікамі. Стаў ужо своеасаблівай традыцыяй і зварот партрэтыстаў да вобразаў беларускай інтэлігенцыі, да людзей, сярод якіх мастакі знаходзяць багатыя па ўнутранаму зместу і цікавыя па тыпажу вобразы. Заручыўшыся веданнем мадэлі, мастакі часта ствараюць глыбокія вобразы вядомых людзей рэспублікі — дзеячоў літаратуры, мастацтва, навукі. Але, на жаль, з даволі шырокага спісу партрэтаў, створаных сёння, няпроста вылучыць яркія і пераканаўчыя рашэнні вобраза сучаснага рабочага. Гэта тым больш дзіўна, што вялікія змены, якія адбываюцца ў абліччы сучаснага перадавога рабочага, відавочныя. Партрэтысты даволі часта карыстаюцца старымі ўяўленнямі пра людзей вытворчасці — вобразы іх трактуюцца абстрактна, у агрубленых формах, у аднастайных кампазіцыях.

Універсальны характар выстаўкі «СССР — наша Радзіма» адкрыў перад нашымі мастакамі самыя шырокія магчымасці для увасаблення ва ўсіх відах і жанрах мастацтва актуальных тэм мінулага і сучаснага нашай краіны. У лепшых работах партрэтыстаў ясна праглядаецца імкненне да абагульнення лепшых рысаў і якасцей савецкіх людзей.

Я засяродзіў тут увагу на здабытках скульптурнага партрэта ў нашай рэспубліцы. Гэтыя здабыткі дазваляюць спадзявацца, што неўзабаве ў партрэтным жанры мы станем сведкамі яшчэ больш пераканальных, больш важкіх здзяйсненняў нашых майстроў разца.

Э. ПЕТЭРСОН.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# ПАЛІТРА РОЗДУМУ І ЗАХАПЛЕННЯ

Ю. ПУЧЫНСКАМУ—50



...І зараз, праз чвэрць стагоддзя, дакладна памятаю сваю першую сустрэчу з Юзэфам Пучынскім. Адбылася яна ў рэдакцыі піянерскай газеты «Зорька», дзе ў той час супрацоўнічаў мастак.

Помніцца, на рэдакцыйнай планёрцы ішла гаворка аб афармленні газеты. Юзэф, з уласцівым яго характару імпэтам, выступаў натхнёна, горача. Гаварыў наконт таго, што кожны малюнак у газеце, няхай самы маленькі, самы нязначны на першы погляд, павінен быць зразумелым дзіцяці, павінен быць выкананы ў абсалютна рэалістычным плане.

Позірк яго цёмных вачэй прываблівау кожнага з нас унутранай добразычлівасцю і цеплынёй.

Пазней былі і іншыя сустрэчы з мастаком: ён зрабіў малюнкі да першага майго апавядання, да першай кніжкі «Твая дарога». Усё часцей і часцей з'яўляліся яго графічныя работы на старонках часопісаў «Работніца і сялянка», «Беларусь», «Бярозка», «Вясёлка», «Неман». Працуючы ў кніжнай графіцы, Юзэф Пучынскі дапамагаў чытачу ўбачыць і зразумець вобразы многіх літаратурных герояў, створаных Якубам Коласам і Янкам Купалам, Петрусём Броўкам і Іванам Шамякіным, Піменам Панчанкам і Максімам Танкам, Аленай Васілевіч і Васілём Быкавым...

Зрэшты, не ў пераліку галоўнае. Творчы пафас мастака, у якім бы жанры ён не выступаў, — заўсёды ў грамадзянскай значнасці яго работ, у пільнай увазе да надзённых праблем часу. І тут я лаўлю сябе на думцы, а з чаго пачалося асабіста маё захапленне творчасцю мастака, якімі адметнымі рысамі прывабіла яго палітра мяне?

Шчыра здзівіла мяне і парадавала карціна Юзэфа Пучынскага «Партызаны ў параненай Рымы Шаршнёвай». Суровыя, стомленыя твары... Смутак у вачах, але не адчай перад непазбежнасцю... Рукі сціскаюць зброю... Помста напаткае чужынцаў! Такімі мы бачым партызан. І яшчэ ў палатне— святло, трапяткое, трывожнае...

Тады, узіраючыся ў твары народных мсціўцаў, я не адразу зразумеў, адкуль яно, гэта святло-сімвал? Я толькі адчуваў, што яно суладна з маімі пачуццямі тугі і смутку па сябрах і аднагодках, што загінулі ў партызанах. Перад вачыма паўставалі імёны, вобразы. Здавалася, гэта святло жыве на палатне, працінае цябе наскрозь, абуджае боль, выклікае думкі. І не выпадкова, бо яно, гэта святло-сімвал, ішло з глыбіні сэрца мастака, які на свае вочы пабачыў і спазнаў, што такое вайна, з усімі яе жахамі, з усімі яе стратамі.

Дзе гэта адбылося? У Віцебску, дзе Юзэф Пучынскі юнаком упершыню ўбачыў чорную хмару варожых «юнкерсаў», што бамбілі горад, ці мо ў акопах Сталінграда, калі камандаваў кулямётным узводам, ці мо ў шпіталі, калі перад вачыма была толькі ноч?..

У сёлетнім юбілейным годзе нашу шаснаццатую старонку мы асабліва часта і з вялікім задавальненнем прадастаўлялі сябрам-гумарыстам з братніх рэспублік. Урэшце рэшт, як вы самі ўпэўніліся, смяюцца на ўсіх мовах аднолькава весела і жыццярадасна!

Сёння зноў мы прымаем дарагіх гасцей—з Расіі, Украіны, Татарыі і Арменіі... Просім шанаваць, любіць і... усміхацца.

Юрый БЛАГАЎ
Расія

## БЕГ С ПЕРАШКОДАМІ

Бег карысны для людзей,
І таму рашыў я смела,
Бегаць па гадзіне ў дзень,
Каб не так тлусцела цела.

Толькі я свой бег пачаў,
Як для жартаў ёсць прычына.
Хтось крычыць: «Пераключай
Хуткасць першую, хлапчына!»

Рэжуць жартам без нажа:
— Адпачні! Прыляж на траўку!
— Малайчына, не зважай!
— Націскай на ўсе застаўкі!

Толькі бабка мой прэстыж
Бараніць рашыла, зрэшты:
«Без бяды не пабяжыш,
Пэўна, здарылася нешта».

Я да жартаў не прывык,
Прыбаўляю крок па кругу.
Раптам нейкі жартаўнік
Закрычаў: «Лаві зладзюгу!»

Цэлы крос улёг за мной
(Чалавек, відаць, за трыста).
Завяршылі фініш свой
Мы ў міліцыі ўрачыста.

Але як там ні было,
Хоць не лёгка давялося,
Ды затое тры кіло
Скінуў я на гэтым «кросе».

Пераклаў Міхась СКРЫПКА.

## З АРМЯНСКАГА НАРОДНАГА ГУМАРУ

□ *Мыш спыталі, чаму яна такая маленькая. «Кошкі баюся», — адказала мыш.*

□ *Вярблюда спыталі, чаму ў яго шыя крывая. «А што ў мяне роўнае?» — адказаў вярблюд.*

□ *Жабу спыталі, чаму яна квакае. «Голас у мяне такі», — адказала жаба.*

□ *Рыбу спыталі, што новага ў моры. «Новага шмат, ды рот мой повен вады», — адказала рыба.*

□ *Варону спыталі, што самае прыгожае. «Маё птушаня», — адказала варона.*

□ *Сядзіць сабака пад стогам і дзівіцца: «Вось які ад мяне цень».*

□ *Стаіць певень на страсе і дзівіцца: «Як гэта мяне хата трымае».*

□ *Сказала рыба суседцы: «Слухай, пасунься». — «Куды сунуцца, — адказала суседка, — абедзве мы на патэльні».*

□ *«Вось схаплю цябе за бараду і пачну цягаць па свеце», — сказаў адзін. — «Дурань, дык і ты ж са мною будзеш», — адказаў другі.*

□ *Скардзілася дрэва на сякеру. «А з чаго ў мяне тапарышча?» —сказала сякера.*

□ *Павучалі ваўка, а ён: «Хутчэй, авечкі ідуць».*

□ *Паклікалі асла на вяселле, а ён: «Відаць, няма каму ваду цягаць».*

□ *Віншавала ліса курыцу, а яна: «Дзякуй, толькі адыйдзі ад куранят».*

Пераклаў Марцін КОЎЗКІ.

Іван НЕМІРОВІЧ

# «ОСЬ У ЧОМУ РІЧ...»

Сустрэча з кнігай сябра заўсёды радуе. Асабліва, калі гэта кніга сатыры і гумару. Нядаўна такую кнігу прыслаў мне ўкраінскі пісьменнік Іван Неміровіч. З радасцю прачытаў у ёй і гумарыстычныя вершы беларускіх паэтаў у яго перакладзе.

Прапаную перакладзеныя мною два вершы са зборніка Івана Неміровіча «Ось у чому річ!».

Генадзь КЛЯУКО.

## КАШТОЎНЫ ПАЧЫН

Не меў паэт за творы
Ні славы, ні пахвал,
І крытыкі ўсе хорам
Збівалі напавал.

Паэт рашыў: даволі!
Не хлеб—адно асцё!
З людзьмі я лепш у полі
Паглыблюся ў жыццё.

Там больш надзейны фактар —
Працоўны пот і слеў!
...І вось паэт на трактар
Араць загоны сеў.

Бязмежжам вабіць ніва,
Сама ралля пяе...
Паэт — усім на дзіва —
Тры нормы выдае!

Заўсёды ў працы першы.
Хвала і слава — ёсць.
Аб ім складаюць вершы,
Яго партрэты скрозь.

Ляціць хвала па краі
Праз рэчкі і масты...
Арэ ён і гукае:
— Гэй, творчыя браты!

Мне сорам, як успомню:
Сябе я мучыў сам!..
раць бы ўжо даўно мне,
я, дурны, пісаў!

Браткі, не трацце ж часу!
Хто там з хваста ў чарзе —
Мяняй хутчэй Пегаса
На трактар ХТЗ!

Вам будуць слава, грошы
І прэміі ўвесь час,
Адзенне, дом харошы...
Ні гуку — у адказ.

Паэта заклік марны
Растаў дзесь на раллі...
Ніхто не быў бяздарны —
Усе геніі былі!

## СТРАШНАЯ ПОМСТА

*Народнапесенны жарт з літаратурным ухілам*

«Два ведмеді,
два ведмеді
Горох молотили...»
(Украінская народная песня).

Ой у полі вецер вые,
Даспявае проса...
Два крытыкі, два крытыкі
Малацілі прозу.

Ой у полі тры тапалі
Гнуцца пад вятрамі...
Два крытыкі, два крытыкі
Лупцавалі драму.

Ой у полі за гарою
Злосна вецер свішча...
Два крытыкі, два крытыкі
Паэзію нішчаць.

Ой казак — не маладзіца,
А певень —не кура!
...На крытыкаў узнялася
Уся літаратура.

Паўзе хмара з-за ліману,
Сыпле дождж шэры.
Ой з тых крытыкаў ляцелі
Толькі пух ды пер'е.

Закувала зязюлечка
Рана на пагосце...
Засталіся ад крытыкаў
Толькі скура й косці.

Туман ярам, туман ярам,
Туман далінóю...
Ой у полі дзве магілы
Зараслі травою...




— Што вы, што вы?! Я пажартаваў!
— А я—не!

(З часопіса «Перець»).

Вахіт МАНАСЫПАЎ

# З БЛАКНОТА

**З татарскім пісьменнікам Вахітам Манасыпавым я асабіста не сустракаўся. Але добра ведаю яго творчасць, бо ён мой калега — таксама працуе ў часопісе сатыры і гумару, толькі ў татарскім—«Чаян». Часцей за ўсё там ён і змяшчае свае кароткія, але трапныя, я б назваў іх, «міні-навелы». Некаторыя з іх я прапаную ў сваім перакладзе нашым беларускім чытачам.**

**Валянцін ЗУБ**

## НЕ БАЙКА

— Зніміце мяне! — прасіў ён, — і тады справы ў вас пойдуць на лад.

Яго не знімалі.

— Ну, памяркуйце самі,—настойваў ён,—якая ад мяне карысць. Баласт я нікому не патрэбны.

Яго не слухалі.

— Мяне ўсе праклінаюць! — Даказваў ён. — Кпяць, смяюцца... Мне горка і балюча.

Ад яго адмахваліся.

— У вас няма сумлення... Мне сорамна за вас!

І замок нарэшце знялі. І сапраўды, справы адразу пайшлі на лад. Клуб напоўніўся людзьмі.

## ВУЧЭННЕ — СВЯТЛО

Гэтым летам гасцяваў я на вёсцы. І проста здзівіўся: якія там людзі чытаюць кніжкі.

— Ін-тра-заль-ная рэ-вак-цы-на-цыя, — ледзьве адолеў я па складах назву тоўстага фаліянта, які несла бабулька пад пахай.

Услед за бабулькай з'явіўся старэнькі дзядок, які нёс у адной руцэ бітон з газай, а ў другой—кнігу «Кадэнцыі да фартэпіяннага канцэрта (соль-мажор)».

І перада мной замільгацелі:

«Этапная рэдрэсацыя».

«Формальдэгіды».

«Адаманціпома».

Я падышоў са сваім бітонам да ваколіцы, дзе каля запрэжанай фурманкі стаяў прадавец газы.

— Што? Газы? — спытаў ён. — Можна наліць. Толькі ты, дарагуша, спачатку кнігу выберы.

І ён паказаў на скрыню, поўную кніг.

— Мне газа патрэбна, а не кнігі,— заўпарціўся я.

— Ну, як хочаш...—сказаў прадавец і адставіў убок мой бітон. — Сядзі ў цемры.

— Дарэмна, сынок, упарцішся,— заўважыла пажылая жанчына,—і толькі чалавека гнявіш. Скажы дзякуй, што нашу вёску не абмінуў.

Адыходзячы ад фурманкі з поўным бітонам у адной руцэ і «Коксахіміяй» у другой, я ў каторы раз пераканаўся, што «вучэнне—святло, а невучэнне—цемра». У літаральным і пераносным сэнсе.

## ...І НА НАГАХ НЕ СТАІЦЬ

Начальнік упраўлення сыпаў гром і маланкі:

— Палюбуйцеся на гэтага галубочка! Ён жа п'яны! На нагах ледзь стаіць! Ганьба! Да якога часу гэта будзе працягвацца?

Дырэктар фабрыкі стаяў і разгублена лыпаў вачыма:

— Вінаваты... Недагледзелі... Выправім...

— Колькі разоў вы ўжо абяцалі выправіць... І ніяк не выпраўляеце... Папярэджваю, яшчэ раз такое здарыцца — звольню! А зараз прэч яго адгэтуль! Каб і вочы мае не бачылі такога вырадка!

Два здаравенныя хлопцы падхапілі вырадка і пацягнулі яго на склад бракаванай мэблі. Гэта быў дзевяноста першы стол фабрыкі «Крывыя ножкі».

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.


Індэкс 63856 АТ 18707

Адрас рэдакцыі: 220600. ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61. намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22 04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.